● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

26 верасня 1996 г. чацвер, № 235 (23038)



# ЗВЯЗДА

## ДА 1 КАСТРЫЧНІКА Ў СТАЛІЦЫ АЦЯПЛЕННЕ НЕ ЎКЛЮЧАЦЬ

**Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні Мінгарвыканкома Уладзімір БЕЛАХВОСТАЎ.**

Як паведаміў Уладзімір Максімавіч, з 23 верасня пададзена ацяпленне ў дашкольныя ўстановы, школы, лячэбна-прафілактычныя ўстановы. 1 кастрычніка будзе вызначаны тэрмін падачы цяпла ў жылыя дамы. Спадар Белахвостаў праінфармаваў, што запасы паліва на сённяшні дзень складаюць 90 працэнтаў ад патрэбнага аб'ёму. Прадстаўнік Мінгарвыканкома засярodзіў увагу на неабходнасці падрыхтаваць пашпарт гатоўнасці спажыўца. Мэрыя плануе дзейнічаць жорстка: за негатоўнасць такога дакумента будуць прымацца меры да кіраўнікоў установаў і прадпрыемстваў аж да звальнення.

Яшчэ адна ўмова — пагашэнне даўгоў за энерганосьбіты спажыўцамі. Прамысловасць і насельніцтва завінаваціліся 900 мільярдаў рублёў, з якіх доля жыхароў сталіцы — 68 мільярдаў.

Што датычыцца адключэння гарачай вады ў жылым фондзе, што мела месца ў верасні, то гэта была няўдалая спроба выканаць распараджэнне Кабінета Міністраў знізіць расход паліва на 35 працэнтаў. Гарадскімі ўладамі быў знойдзены такі спосаб рашэння, як адключэнне гарачай вады на 10 дзён. Аднак вопыт не прыжыўся. На падобныя меры Мінгарвыканком больш не пойдзе.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



А пакуль цішыня...

Фота Юрыя ДЗЕРАВЯНКІ.

## ПРЭЗІДЭНТ УРУЧЫЎ УЗНАГАРОДЫ ПЕРАМОЖЦАМ КОНКУРСУ НА ЛЕПШЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ ТЭКСТ ДА НОВАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ СІМВОЛІКІ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 25 верасня прыняў у сваёй рэзідэнцыі пераможцаў і прызёраў конкурсу на лепшы тлумачальны тэкст да Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга краіны.**

Вітаючы ўдзельнікаў сустрэчы, Аляксандр Лукашэнка адзначыў: творчыя работы, дасланыя на конкурс, пераканаўча паказалі, што «цяперашняя дзяржаўная сімволіка рэспублікі мае народна-гістарычныя карані і адпавядае перспектыўнаму сучаснаму развіццю нашай Радзімы». Выкарыстанне ў ёй чырвонага, зялёнага і белага колераў абумоўлена гістарычна і светапоглядам. Чырвоны колер на дзяржаўным сцягу, паводле слоў Прэзідэнта, сімвалізуе колер перамог, атрыманых беларускай нацыяй у даўнія часы. Гэта колер сцягоў Чырвонай Арміі і беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны. Зялёны колер увасабляе надзею, вясну і адраджэнне. Белы колер — увасабленне духоўнай чысціні. Герб сімвалізуе працавітасць і добразычлівасць беларускага народа.

Прэзідэнт падкрэсліў, што такія конкурсы праводзіліся ў Беларусі і раней: у 1926 і 1951 гадах. Сучасныя дзяржаўныя сцяг і герб у аснове сваёй паходзяць ад прынятай у тыя гады дзяржаўнай сімволікі. У сваіх аўтарскіх работах, а іх на гэты конкурс было даслана 27, многія ўдзельнікі конкурсу абапіраліся на вопыт папярэднікаў.

Павіншаваўшы ўсіх, хто праявіў свае творчыя здольнасці ў конкурсе, Прэзідэнт краіны ўручыў каштоўныя падарункі пераможцам і прызёрам, якія былі вызначаны журы на чале з народным мастаком Беларусі Міхаілам Савіцкім.

Пісьменнік Аляксандр Савіцкі і скульптар Уладзімір Папсуеў атрымалі ўзнагароды за першае месца. Старшы выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу з БДУ Валерый Касмылёў, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі Леанід Побаль, паэт Браніслаў Спрынчан узнагароджаны за другое месца. Памятныя прызы з рук кіраўніка дзяржавы атрымалі таксама старшы выкладчык кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін гістарычнага факультэта БДУ Аляксандр Стуканаў, публіцыст Эдуард Самусенка, дацэнт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Дзмітрый Хромчанка і яго дачка Кацярына, студэнтка 2 курса гістарычнага факультэта БДУ.

Вынікі іх творчай працы будуць апублікаваны асобным зборнікам, а таксама ўвойдуць у школьныя падручнікі.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПРЭЗІДЫУМ ЗАКЛІКАЕ ДА ДЫСЦЫПЛІНАВАНАСЦІ

**З кожным днём шэрагі дэпутатаў, якія ўдзельнічаюць у пленарных пасяджэннях сесіі Вярхоўнага Савета, радзеюць. Напрыклад, учора раніцай зарэгістравалася толькі 136 дэпутатаў (у мінулы дзень было на пяць больш). Такая надзвычай нізкая актыўнасць парламентарыяў дала падставу кіраўніцтву Вярхоўнага Савета пачаць сур'ёзную размову наконт дысцыплінаванасці дэпутацкага корпуса.**

У прыватнасці, Прэзідыум з удзелам дня ўвёў у дзеянне некаторыя меры, якія павінны аднавіць парадак у Авальнай зале.

Па-першае, на кіраўнікоў пастаянных камісій ускладзены кантроль за ўдзелам членаў камісій у рабоце сесіі Вярхоўнага Савета.

Па-другое, сакратарыяту сесіі даручана кожны дзень зачытваць у «Розным» спіс дэпутатаў, якія без уважлівай прычыны адсутнічалі на папярэднім пасяджэнні, і перадаваць гэты спіс у газеты «Звязда» і «Народная газета», а таксама ў мясцовыя органы друку для публікацыі.

Па-трэцяе, дэпутаты, якія працуюць на пастаяннай аснове, але адсутнічаюць на пленарных пасяджэннях, будуць пазбаўлены матэрыяльнага ўзнагароджання, а іншагародняя — камандзіровачных расходаў (да таго ж аб іх «рабоце» будуць ведаць на асноўным месцы працы). Такім чынам, гэтыя меры, трэба думаць, ужо ў хуткім часе прынясуць свой плён.

Але адсутнасць пэўнай часткі дэпутатаў не перашкодзіла сесіі 25 верасня. І пасяджэнне традыцыйна пачалося з раздзела «Рознае», у якім выступілі Павел Знавец і Алена Скрыган. Сп. Знавец, у прыватнасці, засяродзіў увагу сваіх калег на падзеях, якія разгарнуліся вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя. Беларускія сродкі масавай інфармацыі ўжо пісалі пра гэтую праблему. Справа ў тым, што на будынак, у якім зараз месціцца гэтая рэдкая навучальная ўстанова, прэтэндуе Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта з намерам перадаць яго ў карыстанне Саюза моладзі. Аднак і кіраўніцтва ліцэя, і яго выхаванцы, і іх бацькі спрабуюць адстаяць свае правы і звяртаюцца ў розныя інстанцыі, шукаючы абароны. Як бачым, надышла чарга і Вярхоўнага Савета, які, трэба спадзявацца, пасадзейнічае вырашэнню канфлікту. А сп. Скрыган зрабіла зварот на імя старшыні Гомельскага аблвыканкома сп. Шыпука, у якім просіць вырашыць складанае жыллёвае пытанне адной са сваіх выбаршчыц, маці хворай дзяўчынкі.

У асноўны перыяд сваёй работы дэпутаты вярнуліся да разгляду папраўкі і дапаўненняў у Закон «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета», якія яны пачалі разглядаць днём раней. Асаблівыя спрэчкі разгарэліся вакол папраўкі, якая прадугледжвае адкліканне дэпутата.

Так, Павел Знавец настойваў на тым, каб наогул ліквідаваць такое паняцце, як адкліканне дэпутата, паколькі такая норма адсутнічае ў многіх еўрапейскіх краінах. Аднак большасць народных выбраннікаў палічыла інакш. Больш таго, днямі ў парламенце пачнецца разгляд законапраекта «Аб адкліканні дэпутата Вярхоўнага Савета», у якім гэтая працэдура будзе апісана дэталёва.

Яшчэ адзін законапраект, якому ўчора нямала ўвагі ўдзялілі дэпутаты, — «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь». Акрамя таго, на ратыфікацыю Вярхоўнаму Савету было прадстаўлена Пагадненне аб правядзенні ўзгодненай палітыкі ў галіне транспарціроўкі нафты і нафтапрадуктаў па магістральных трубаправодах, якое было падпісана прадстаўнікамі краін—удзельніц СНД 12 красавіка ў Маскве.

Не абышлося на сесіі і без палітычных заяў. Пяць дэпутатаў, якія раней уваходзілі ў фракцыю «Згода», паведамілі Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёну Шарэцкаму і лідэру фракцыі Уладзіміру Канаплёву, што пакідаюць гэтае дэпутацкае аб'яднанне. Спадары Домаш, Скок, Савічаў, Пракаповіч і Цярэшчанка лічаць, што могуць праводзіць сапраўдную цэнтрысцкую палітыку толькі па-за межамі «Згоды», за якой устойліва замацавалася назва прапрэзідэнцкай фракцыі.

Трэба сказаць, што для саміх «згодаўцаў» такое рашэнне іх калег не было нечаканым, паколькі гэтыя дэпутаты заўсёды мелі адрознуюпазіцыю.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*РЭПЛІКА*

## ПРЭЗІДЭНТА «ПАДСТАЎЛЯЮЦЬ»?

Колькі было шуму-крыку наводкал спробы «дэструктыўных сіл» адключыць у Мінску гарачую ваду на пэўны час. Нават мэра горада ў гэтыя «разборкі» ўцягнулі. Нават сам Прэзідэнт паківаў пальцам каму трэба і забараніў эксперыменты над людзьмі.

А толку? Вярталюся ўчора з работы дадому — вісіць на дзвярах дома па Пуліхава, 23 сціплы такі кавалачак паперы, з дзіцячую далоньку. Жыльцы, вядома, прачытаюць, але ж каб начальства не заўважыла...

«У сувязі з рамонтнымі работамі на ЦТП2/104 праводзімымі цеплaсеткамі ў вашым доме будзе адсутнічаць гарачая вада з 23 верасня па 2 кастрычніка 1996 года» (як напісана, так і пpыводжу).

Вось табе і высокія гарантыі.

Паспрабаваў званіць дыспетчару ЖЭС-3 — тэлефон увесь час заняты. У цеплaсетку і званіць не стаў. Усё роўна нешта прыдумаюць у сваё апраўданне. Паспрабуй правер іх.

А ў доме, ведаю, тузін пенсіянераў і яшчэ больш дзяцей. І батарэі халодныя. А ў пад'ездзе, таксама ведаю, аж двое хворых на запаленне лёгкіх. Час зараз такі — прастудзіцца лягчэй, чым зімой.

Думаў, адным нам так «пашанцавала». Раніцай прыходжу на работу — у ліфце калега расказвае: і мы сядзім без гарачай вады (Якубоўская, 24, корпус 3).

І рэдакцыйны шафёр уступіў у размову:

— А ў мяне на Цнянскай, 23 няма ж, роднenькай, ужо два з паловай месяцы! Надакучыла чыгункі-кастрюлькі грэць. Да кастрычніка прыйдзецца чакаць — раней і не абяцаюць.

За шмат гадоў укаранілася завядзёнка: як на паляванне ісці — тады і сабак карміць. Мала было лета нашым камунальнікам. Праспалі лета. Зараз спахапіліся. Ні людзей не паважаюць, ні Прэзідэнта не баяцца.

**(Кар. «Звязды».)**

*АКТУАЛІІ*

## ЗАРПЛАТА ПРАЦОЎНЫХ ПАЦІХУ НАБЫВАЕ ПАМЕРЫ МІНІМАЛЬНАГА СПАЖЫВЕЦКАГА БЮДЖЭТУ

Сёлетняя восень на заводах і фабрыках рэспублікі пачалася даволі неспакойна — па тыдню стаялі Мінскі аўтамабільны і Мінскі завод колавых цягачоў. Неспакойна было на «Гомсельмашы», там працоўныя ледзь не выйшлі на забастоўку. Прычыны — у пастаяннай запазычанасці па выплаце заробку. Менавіта гэтае пытанне ўздымалася на прайшоўшым нядаўна сходзе прадстаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Як вядома, кіраўніцтва дзяржавы дало абяцанне ліквідаваць даўгі па заробку ўжо да пачатку кастрычніка . Да азначанага тэрміну засталося каля тыдня, на сённяшні ж дзень сітуацыя выглядае наступным чынам:

— мазаўцы атрымалі за жнівень 30 працэнтаў належнай сумы, яшчэ 30 чакаецца з дня на дзень. Астатнія абяцалі выплаціць крыху пазней.

— на Мінскім трактарным заводзе склалі вельмі цікавы графік выплат: працоўных падзялілі на пяць груп, кожнай з якіх прызначылі свой тэрмін атрымання заробку. Дык, вось, зараз заработную плату атрымлівае трэцяя група.

— па шляху няпоўнага налічэння заробку пайшлі і на падшыпнікавым заводзе: на гэты момант працоўныя прадпрыемства атрымалі суму грошай, роўную мінімальнаму спажывецкаму бюджэту.

— завод шасцерняў проста быў вымушаны змяніць графік выплаты такім чынам, што за жнівень работнікі будуць мець на руках заробак толькі 10 лістапада. Адбываецца парадаксальная сітуацыя: сёння працуем, а атрымліваць будзем невядома калі.

— на «Гомсельмашы» заработную плату завінаваціліся за ліпень і жнівень: вельмі цяжкае становішча з наяўнасцю.

Час ідзе, прадпрыемствы балансуюць на мяжы банкруцтва, і абнадзейлівых перспектыў пакуль не відаць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

**Дзесяць працэнтаў** ад агульнай колькасці работнікаў у студзені—ліпені **працавалі ў рэжыме няпоўнага працоўнага часу**, а 447,7 тысячы чалавек (11 працэнтаў) знаходзіліся ў вымушаных адміністрацыйных водпусках.

**За 10 гадоў** у рэспубліцы быў вынесены **271 прысуд** да пакарання смерцю, колькасць смяротных прысудаў па гадах узрастае: 1989-ы — 18, 1994-ы —40, 1995-ы —46, на 26 жніўня 1996-га — 24.

**Кожны пяты** жыхар Беларусі пражывае **на радыеактыўнай тэрыторыі.**

За апошнія дзесяць гадоў узровень захворвання сістэмы кровазвароту павялічыўся **ў тры разы**, у тым ліку на інфаркт міякарда — **удвая**; за гэты ж час «ураджай» сіфілісу ўзрос у **дзесяць разоў**, штогадовы прырост анказахворванняў складае **ад 3 да 5 працэнтаў.**

Заржавелы артылерыйскі снарад у Клічаўскім раёне **забраў жыцці** дваіх дзяцей.

У харчовай прамысловасці аб'ём вытворчасці прадукцыі за 8 месяцаў да ўзроўню яе выпуску за гэты ж перыяд 1995 года склаў **99 працэнтаў**, у тым ліку на прадпрыемствах Мінсельгасхарча — **102,9 працэнта.**

У студзені—жніўні з 430 важнейшых відаў прадукцыі **павялічаны выпуск** да адпаведнага перыяду 1995 года **па 201 вырабу.**

## ПРЭЗІДЭНТ НЕ ПАДПІСАЎ ЗАКОН АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не падпісаў Закон аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб народным галасаванні (рэферэндуме) і вярнуў яго ў Вярхоўны Савет для паўторнага абмеркавання і галасавання. Кіраўнік дзяржавы лічыць, што дзевяць пунктаў гэтага законапраекта «абмяжоўваюць магчымасці правядзення рэферэндуму».**

Прэзідэнт, у прыватнасці, не згодны з выключэннем з закона палажэння, якое прадугледжвае магчымасць выкарыстоўваць на правядзенне рэферэндуму добраахвотныя ўзносы грамадзян, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, што, на яго думку, супярэчыць агульнапрынятым нормам правядзення рэферэндуму. Адмену так званай «скрынкі для галасавання» А. Лукашэнка расцэньвае як абмежаванне магчымасці грамадзян для ўдзелу у рэферэндуме ў выпадку, калі яны не змогуць прыйсці на выбарчыя ўчасткі.

Увёўшы дадатковыя падставы для прыцягнення да адказнасці за парушэнне заканадаўства аб рэферэндуме, адзначае кіраўнік дзяржавы, гэты закон «не вызначае дакладных крытэрыяў прызнання дзеянняў незаконнымі альбо такімі, якія могуць пацягнуць за сабою адпаведную адказнасць альбо прызнанне рэферэндуму несапраўдным».

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

## «МЫ НЕ ХОЧАМ ПРАВАВОГА БЯЗМЕЖЖА...»

**Адбыўся першы з'езд Рэспубліканскай партыі «За сацыяльную справядлівасць»**

**Ён прыняў зварот, у якім гаворыцца:**

«Мы, дэлегаты 1-га з'езда Рэспубліканскай партыі «За сацыяльную справядлівасць», звяртаемся да народа краіны з просьбай падтрымаць нашы намаганні ў барацьбе за аднаўленне сацыяльнай справядлівасці, якая парушаецца ўсімі, хто несумленна і нахабна садзейнічаў і садзейнічае прыняццю законаў, якія дазваляюць абкрадваць простых людзей.

Нас, хто пацярпеў ад ліхвяроў і цынічных палітыканаў, якія правакуюць нестабільнасць і падбухторваюць грамадства да неўтаймаванай рыначнай стыхіі, -- сотні і сотні тысяч.

Мы не хочам, каб беспрынцыпныя дзялкі, якія знішчылі нашы ўклады ў банках, стварылі «мыльныя» фірмы, у якіх, як у бездані, бясследна зніклі нашы зберажэнні, працягвалі нагнятаць абстаноўку прававолга бязмежжа, карупцыі, анархіі і працвітання верхаводаў ценявога бізнесу. Іх намаганнямі ліквідаваны і нашы ўклады ў Ашчадным банку, уклады ў каштоўных рэчавых паперах пазыкі 1991 года.

Учора яны абакралі нас, акапаўшыся ў органах заканадаўчай улады ў цэнтры і на месцах, сёння яны робяць усё магчымае і немагчымае, відавочнае і тайнае, каб тарпедаваць палітыку Прэзідэнта рэспублікі, накіраваную на ўмацаванне парадку, стварэнне дынамічнай эканомікі, якая гарантуе кожнаму дастойнае жыццё. Ламаючы іх супраціўленне, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў «Указ аб падтрымцы і аказанні дапамогі грамадзянам, якія пацярпелі ад незаконнай дзейнасці фінансавых кампаній».

Гэта толькі першыя парасткі, пасаджаныя не Вярхоўным Саветам, а Прэзідэнтам, і наша задача -- не даць ім завянуць.

Цяпер сілы, якія абакралі нас, дыскрэдытуюць ідэю рэферэндуму 7 лістапада г. г., называючы яе антыдэмакратычнай акцыяй толькі таму, што менавіта такім чынам народ можа сказаць сваё слова ў абарону правоў на сацыяльныя гарантыі дастойнага існавання і на стварэнне дзяржаўнасці, здольнай гэтыя гарантыі рэалізаваць.

Усведамляючы ўсю складанасць гэтых працэсаў, мы заклікаем усіх сумленных людзей прыняць удзел у рэферэндуме, які прапануе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, і падтрымаць яго дзеянні, накіраваныя на зацвярджэнне парадку і дабрабыту простых людзей.

Прэзідэнт з намі!
Прэзідэнт за нас!
Мы за Прэзідэнта!

**Дэлегаты і ўдзельнікі 1-га з'езда Рэспубліканскай партыі «За сацыяльную справядлівасць».**

## ВІКТАР ГАНЧАР ПРАДСТАВІЎ ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ ДЭКЛАРАЦЫЮ АБ ДАХОДАХ

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар стрымаў дадзенае пры абранні на гэтую пасаду слова і прадставіў у Вярхоўны Савет дэкларацыю аб даходах. У якасці крыніцы даходаў В. Ганчар указаў заробак Генеральнага сакратара Эканамічнага суда Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Агульная сума заробку за 1995 год склала 19.379.168 расійскіх рублёў, а заробак за студзень--жнівень 1996 года -- 21.752.462 рублі Расійскай Федэрацыі. Ва ўласнасці старшыні Цэнтрвыбаркома маецца прыватызаваная кватэра ў панельным доме агульнай плошчай 63,4 кв.м, размешчаная на дзявятым паверсе дома, пабудаванага ў 1990 годзе. Дачных і жылых дамоў, зямельных участкаў, асабістага аўтамабіля і рахункаў у банках не мае.

Адначасова В. Ганчар падаў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі С. Багданкевічу заяву аб прыпыненні свайго членства у АГП, у палітсавеце і Нацыянальным камітэце партыі на перыяд выканання абавязкаў старшыні Цэнтрвыбаркома.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

## ДЗЕЛАВЫЯ ЛЮДЗІ РАСІІ І БЕЛАРУСІ СУСТРЭНУЦЦА Ў МІНСКУ

Праблемы інтэграцыі прамысловага і банкаўскага капіталу, а таксама фарміравання транснацыянальных фінансава-прамысловых груп будуць абмеркаваны на нарадзе прадстаўнікоў дзелавых колаў Расіі і Беларусі, якая пройдзе ў Мінску 26-27 верасня.

**БЕЛТА.**

# РОЗГАЛАС

## НА «ЗАХОДНІМ ФРОНЦЕ» — ПЕРАМЕНЫ ДА ГОРШАГА

**Заходнія дзяржавы адвяргаюць абвінавачанні Прэзідэнта Беларусі наконт спробаў дэстабілізацыі абстаноўкі ў нашай краіне з боку паслоў краін НАТО**

**Адносіны паміж Беларуссю і Захадам, якія ў апошні час і без таго складваліся няпроста, напярэдадні рэферэндуму будуць падвергнуты чарговаму сур'ёзнаму выпрабаванню.**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў канцы мінулага тыдня на маладзёжным форуме ў Мінску, абвінаваціў шэраг надзвычайных і паўнамоцных паслоў, якія прадстаўляюць у Беларусі дзяржавы—удзельніцы НАТО, у тым, што яны, паслы, некаторымі сваімі дзеяннямі дэстабілізуюць сітуацыю ў нашай краіне.

У прыватнасці, кіраўнік Беларусі паведаміў пра сустрэчу паслоў, што адбылася 11 верасня, на якой, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, ішла размова пра тое, як напярэдадні рэферэндуму «прынізіць беларускага прэзідэнта, а ў процівагу яму падтрымаць асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савета». Па версіі кіраўніка дзяржавы, паслы дамовіліся аб тым, каб «ні ў якім разе не ісці на кантакты з Лукашэнкам напярэдадні рэферэндуму, каб такім чынам не павысіць яго ролю і аўтарытэт», а таксама аб тым, каб «накіраваць у беларускую сталіцу групу амерыканскіх спецыялістаў, якія падрыхтуюць даклад — магчыма, для Кангрэса — аб парушэнні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь».

На гэтай жа сустрэчы, паводле слоў Прэзідэнта, выказваліся прапановы (у прыватнасці, паслом Вялікабрытаніі Джэсікай Пірс) наконт таго, каб запрасіць на Захад беларускіх журналістаў з незалежных выданняў і правесці там з імі «адпаведную работу».

Заходнія дзяржавы не пакінулі без увагі гэтыя сур'ёзныя абвінавачанні з боку кіраўніка Беларусі. 24 верасня афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента Злучаных Штатаў Нікалас Бернс, выступаючы на брыфінгу ў Вашынгтоне, заявіў: «Мы адвяргаем гэтыя абвінавачанні... Нічога падобнага не мае месца... Мы лічым падобныя заявы правакацыйнымі і абуральнымі...»

Тым не менш, сустрэча, пра якую гаварыў Аляксандр Лукашэнка, сапраўды адбылася. Вось як характарызуецца яна ў афіцыйнай заяве пасольства ЗША: «Кіраўнікі дыпламатычных місій у сталіцах ва ўсім свеце праводзяць рэгулярныя сустрэчы для абмену думкамі. Сустрэча, пра якую ідзе размова, адбылася ў пасольстве Вялікабрытаніі, і на ёй не прысутнічалі грамадзяне Беларусі. Мы звярнуліся ў Міністэрства замежных спраў з афіцыйнай просьбай растлумачыць, на якой падставе Прэзідэнт ахарактарызаваў па нацыянальным тэлебачанні сустрэчу, што адбывалася за зачыненымі дзвярыма. Мы лічым падобныя заявы і дзеянні, якія яны маюць на ўвазе, абуральнымі».

Прыкладна такой жа была рэакцыя і з боку пасла Вялікабрытаніі Джэсікі Пірс.

Пра тое, што спецслужбы ў розных краінах пільна назіраюць за замежнымі дыпламатамі, — вядома даўно. Але цяжка прыпомніць выпадак, калі б кіраўнікі дзяржавы фактычна адкрыта прызнавалі гэта і спасылаліся на атрыманую такім чынам інфармацыю.

Наўрад ці абвінавачанні, якія прагучалі з вуснаў Прэзідэнта, былі няўдалай імправізацыяй ці эмацыянальным пераборам. Для значнай часткі беларускага электарату яшчэ з савецкіх часоў Захад і НАТО нязменна асацыіруюцца з «вобразам ворага». Таму абвінавачанні ў падобным кантэксце могуць адыграць істотную ролю ў падрыхтоўцы і правядзенні рэферэндуму. Верагодна, Аляксандр Лукашэнка чуйна ўлоўлівае гэты нюанс.

Другі бок падобнай рэзкай заявы — верагоднасць істотнага пагаршэння адносінаў Беларусі з краінамі Захаду. Аднак вялікага прарыву ў заходнім напрамку ў нас не было і раней. Напружанасць у адносінах з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі захоўваецца ўжо на працягу некалькіх гадоў. І галоўным тормазам тут служаць не столькі рэзкія заявы, колькі эканамічны курс Беларусі.

Што да пагрозы міжнароднай ізаляцыі, то падчас рэферэндуму яна здольна не столькі нашкодзіць, колькі дапамагчы беларускаму Прэзідэнту. Знешні праціўнік ці штучна створаны вобраз такога праціўніка заўсёды спрыялі згуртаванню значнай часткі насельніцтва вакол лідэра.

**Валянцін ЖДАНКО.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 376

### АБ ВЫЗВАЛЕННІ І НАЗНАЧЭННІ СУДДЗЯЎ СУДОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кіруючыся пунктам 10 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

Вызваліць:

Сапоцька Таццяну Генадзьеўну — ад пасады суддзі суда Першамайскага раёна г.Віцебска па ўласнаму жаданню (артыкул 72 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь»)

Ціткову Ірыну Мікалаеўну — ад пасады суддзі суда Кастрычніцкага раёна г.Віцебска па ўласнаму жаданню (артыкул 72 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь»)

Назначыць:

Давыдава Уладзіміра Аляксандравіча — намеснікам старшыні Мінскага міжгарнізоннага ваеннага суда, вызваліўшы яго ад пасады суддзі гэтага суда

Дабранава Уладзіміра Мікалаевіча — суддзёй гаспадарчага суда Гродзенскай вобласці

Дабрадзея Анатоля Іванавіча — старшынёй суда Стаўбцоўскага раёна, вызваліўшы яго ад пасады суддзі суда Слуцкага раёна і г.Слуцка

Захарыйчука Віктара Якаўлевіча — суддзёй Барысаўскага міжгарнізоннага ваеннага суда

Каранеўскага Андрэя Паўлавіча — старшынёй Барысаўскага міжгарнізоннага ваеннага суда, вызваліўшы яго ад пасады суддзі гэтага суда

Лупіновіча Аляксандра Станіслававіча — суддзёй Віцебскага міжгарнізоннага ваеннага суда

Невяроўскага Аляксандра Уладзіміравіча — суддзёй Мінскага міжгарнізоннага ваеннага суда

Скорыкава Мікалая Іванавіча — суддзёй Барысаўскага міжгарнізоннага ваеннага суда

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

20 верасня 1996 г., г.Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 380

### АБ НАЗНАЧЭННІ Я.П.КАВАЛЁВА НАЧАЛЬНІКАМ ШТАБА — ПЕРШЫМ НАМЕСНІКАМ НАЧАЛЬНІКА ГАЛОЎНАГА ЎПРАЎЛЕННЯ ПАГРАНІЧНЫХ ВОЙСКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Назначыць генерал-маёра Кавалёва Яўгена Пятровіча начальнікам штаба — першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

24 верасня 1996 г., г.Мінск.

## ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прысваенні намесніку старшыні Мінскага аблвыканкома Леаніду Піліпавічу Падгурскаму ганаровага звання «Заслужаны эканаміст Рэспублікі Беларусь» — за значны ўклад у распрацоўку і ажыццяўленне праграм эканамічнага і сацыяльнага развіцця вобласці.

**БЕЛТА.**

## БУДЗЕМ АТРЫМЛІВАЦЬ НОВЫЯ ПАШПАРТЫ

Пасля праведзенага на чарговым пасяджэнні калегіі Кабінета Міністраў зацвярджэння ўзору новага пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь у выдавецтве «Беларускі Дом друку» пачнецца іх выпуск. У месяц будзе вырабляцца да 200 тысяч пашпартоў. Паводле сцвярджэння спецыялістаў, гэты дакумент змяшчае 15 ступеняў абароны. Яго афармленне і выдача будуць ажыццяўляцца толькі з дапамогай спецыяльнай тэхнікі, што выключае магчымасць якой-небудзь падробкі.

Новы пашпарт будзе выконваць функцыі і замежнага. Два разы ў жыцці — у 25 і 45 гадоў — прыйдзецца яго мяняць з мэтай абнаўлення фатаграфіі. За атрыманне новага пашпарта неабходна будзе заплаціць 30 тысяч рублёў.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ЁСЦЬ МЕСЦА АДКРЫЦЦЯМ!

**Беларускаму фізіку-тэарэтыку Уладзіміру Круглову пашанцавала ўдвайне: ён не толькі адкрыў новую фізічную з'яву — фатонную звышцякучасць, але і змог даць адкрыццю тэарэтычнае тлумачэнне.**

З яго тэорыі вынікаюць незвычайныя, парадаксальныя ўласцівасці лазернага промня на віхравых («звышцякучых») фатонах. Гэты прамень верціцца з неверагоднай скорасцю (некалькі трыльёнаў абаротаў у секунду) і можа распаўсюджвацца на велізарныя адлегласці, не разыходзячыся і не трацячы энергіі.

Прадказаныя ім віхравыя фатоны сапраўды былі выяўлены ў эксперыментах некалькіх даследчых груп за мяжой, у тым ліку і ў Маскоўскім універсітэце. Тое, што не ўдалося праверыць у фізічных доследах, прыходзілася даследаваць у камп'ютэрных эксперыментах. Тут вельмі плённым аказалася супрацоўніцтва з Васілём Волкавым з Інстытута матэматыкі АНБ.

Калі тое, што прафесар У. Круглоў прапануе, удасца ажыццявіць, то лазерная тэхніка ўзбагаціцца новымі лазернымі паскаральнікамі іонаў і зараджаных элементарных часцінак, лазернымі мікралітографамі — прыладамі для вытворчасці звышмініяцюрных мікрасхем, удасканаленымі лазернымі скальпелямі для хірургічных аперацый, у тым ліку афтальмалагічных і анкалагічных.

Да ўсяго гэтага застаецца толькі дадаць, што фатонная звышцякучасць Уладзіміра Круглова становіцца побач з электроннай звышправоднасцю Хэйке Камерлінг-Онеса і звышцякучасцю вадкага гелію Пятра Капіцы, адзначаных Нобелеўскімі прэміямі ў 1913 і 1978 гадах. Дарэчы, яго тэорыя — аб'яднаная, яна дае тэарэтычнае апісанне ўсіх трох з'яў.

Сам даследчык, вядучы навуковы супрацоўнік фізіка-тэхнічнага інстытута ў Мінску, вельмі ўдзячны «свайму» дырэктару — акадэміку Станіславу Астапчыку, — за тое, што той усвядоміў перспектыўнасць даследаванняў па лазернай звышцякучасці і не толькі стварыў іх ініцыятару ўмовы для працы, але і падтрымаў сродкамі з дырэктарскага фонду.

Некалькі слоў аб самім аўтары адкрыцця. Уладзіміру Круглову 49 гадоў. Ён скончыў энергетычны факультэт Маскоўскага інжынерна-фізічнага інстытута. У 1975 г. абараніў кандыдацкую, у 1991-м — доктарскую дысертацыю. Да 1993 працаваў у Інстытуце фізікі, спачатку ў лабараторыі прафесара Юрыя Хадыкі, потым у лабараторыі акадэміка Паўла Апанасевіча. І яшчэ адна акалічнасць. Жонка Наталля — дацэнт кафедры анкалогіі Мінскага медыцынскага інстытута. Менавіта з ёй абмяркоўваліся медыцынскія аспекты нязвычнага лазернага промня.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, кандыдат фізіка-матэматычных навук, карэспандэнт БелаПАН, спецыяльна для «Звязды».**

## У ПОШУКАХ РАБОТЫ ГАТОВЫ ЕХАЦЬ ЗА МЯЖУ

**У Міністэрстве працы Беларусі ёсць прадастаўленыя Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук даныя аб тым, што ад 10 да 30 працэнтаў працаздольнага насельніцтва рэспублікі мае жаданне ехаць у пошуках работы за мяжу.**

Зрэшты, гэты працэс ужо ідзе поўным ходам. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, калі ў 1994 годзе выехалі з гэтай мэтай за межы Беларусі 1314 чалавек, у мінулым годзе — 1684, то ў першым паўгоддзі сёлетняга — 1100 чалавек.

Кіраўніцтва рэспублікі заключыла двухбаковыя пагадненні аб магчымасці свабоднага працаўладкавання грамадзян з Расіяй, Малдовай, Польшчай, Украінай і Літвой.

Рыхтуюцца аналагічныя праекты пагадненняў з Манголіяй і Казахстанам.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЗАСЕКІ ЗАПОЎНЕНЫ ЗБОЖЖАМ НА 86 ПРАЦЭНТАЎ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце хлебапрадуктаў, зараз гаспадаркамі рэалізавана дзяржаве 1.627,5 тысячы тон збожжа, ці 86 працэнтаў ад планавага паказчыка.**

Больш за ўсіх здалі магіляўчане — 281,9 тысячы тон (99 працэнтаў). З Брэстчыны паступіла 247,3 (86), Віцебшчыны — 267,3 (86), Гродзеншчыны — 247 (78), Міншчыны — 365 (84). З 15 верасня дзяржаўныя прыёмныя пункты ўстанавілі фіксаваную цану на здадзенае збожжа (каэфіцыент выводзіўся ў адпаведнасці з курсам долара). Тэмпы продажу збожжа дзяржаве пакуль застаюцца невысокімі. Адну з прычын спецыялісты бачаць у тым, што ў гаспадарак шмат даўгоў, з якімі трэба разлічыцца. Ім у такіх умовах вельмі цяжка вызначыць, каму рэалізаваць вырашчанае ў першую чаргу.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЛІТВА І УКРАІНА — ЗА СТАБІЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ

**Леанід Кучма жадае Беларусі паспяховай інтэграцыі ў Еўропу, а Альгірдас Бразаўскас лічыць устанаўленне граніцы паміж Літвой і Беларуссю гістарычным подзвігам дыпламаты абедзвюх дзяржаў. Аб гэтым было заяўлена ў Вільнюсе на сумеснай прэс-канферэнцыі прэзідэнтаў Украіны і Літвы пасля заканчэння візіту ў балтыйскую дзяржаву Леаніда Кучмы.**

На пытанне вільнюскага карэспандэнта БЕЛТА, як прэзідэнты ацэньваюць сітуацыю ў Беларусі і адносіны сваіх краін з нашай рэспублікай, Леанід Кучма сказаў, што Украіна вельмі зацікаўлена ў стабільнай беларускай дзяржаве. Украіна, паводле яго слоў, шчыра жадала б, каб Беларусь паспяхова ўключалася ў еўрапейскія структуры і не адхілялася ад агульнага шляху. Пры гэтым Леанід Кучма ўдакладніў: Украіна не ўмешваецца ва ўнутраныя справы Беларусі і спадзяецца, што ў гэтай рэспубліцы будзе ўсё добра.

Прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас пагадзіўся з такой ацэнкай сітуацыі і сказаў, што ён таксама *спадзяецца на зніжэнне палітычнай* напружанасці. Адносіны Літвы і Беларусі ён прызнаў добрымі, асабліва падкрэсліў «подзвіг дыпламаты абедзвюх дзяржаў» ва ўстанаўленні граніцы. Гэты подзвіг ён назваў гістарычным фактам, аналаг якому нават гісторыкі наўрад ці знойдуць.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

## СМЯРОТНЫ ФЕЕРВЕРК

**Трагічна закончылася святкаванне 35-годдзя з дня заснавання Светлагорска.**

На дзень нараджэння горада было запрошана мінскае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Ліор», якое ўзялося арганізаваць маляўнічае шоу з феерверкам. На бяду, у час запуску ракет на вуліцы Савецкай адна з іх трапіла ў дзяўчыну, якая знаходзілася паблізу выбуховых устройстваў. Рана аказалася смяротнай.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ЗЕЛІМХАН ЯНДАРБІЕЎ ХУТКА НАВЕДАЕ МАСКВУ

Намеснік сакратара Савета бяспекі Расіі Сяргей Харламаў завяршыў у Чачні кансультацыі з лідэрамі ўзброенай апазіцыі. Адразу пасля вяртання ў Маскву ён даложыць пра вынікі гэтых сустрэч Аляксандру Лебедзю. Падчас кансультацый, у прыватнасці з начальнікам галоўнага штаба чачэнскіх фарміраванняў Асланам Масхадавым, абмяркоўваліся праблемы маючага адбыцца візіту ў Маскву лідэра сепаратыстаў Зелімхана Яндарбіева.

### ЧАРНОБЫЛЬ МОЖА АБ САБЕ НАГАДАЦЬ У ХУТКІМ ЧАСЕ?

На Чарнобыльскай АЭС няма ніякага павышэння ўзроўню радыяцыі. Ні работнікам станцыі, ні насельніцтву нічога не пагражае. Пра гэта заявіў учора дырэктар Чарнобыльскай АЭС. У размове з карэспандэнтам ІТАР-ТАСС ён заявіў, што тыдзень таму прыборы сапраўды зафіксавалі павышэнне радыяцыі пад саркафагам чацвёртага энергаблока, аднак гэта было выклікана непаладкамі прыбораў. У цяперашні час ніякіх адхіленняў ад нормы няма. У аўторак міністр аховы навакольнага асяроддзя Украіны заявіў, што чацвёрты энергаблок ЧАЭС можа ўзарвацца ў любы момант.

### МІНІСТРЫ АБАРОНЫ КРАІН НАТО САБРАЛІСЯ Ў НАРВЕГІІ

Міністры абароны краін НАТО абмяркоўваюць на сустрэчы ў нарвежскім горадзе Берген будучыню міратворчых аперацый у Босніі і Герцагавіне. У снежні гэтага года заканчваецца тэрмін знаходжання цяперашняга кантынгенту НАТО ў Босніі. Ваенныя аглядальнікі лічаць, што толькі ваенная прысутнасць можа выратаваць Дэйтанскі мірны працэс ад зрыву. Сёння на сустрэчу прыбывае міністр абароны Расіі Радзівонаў. Чакаецца, што з яго ўдзелам будзе абмеркавана пытанне пашырэння НАТО. Радзівонаў таксама падпіша пагадненне аб ліквідацыі расійскіх ваенных адходаў у Арктыцы.

### ІЗРАІЛЬ НЕ ДАПУСЦІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПАЛЕСЦІНЫ?

Прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу зноў заявіў, што не дапусціць стварэння незалежнай палесцінскай дзяржавы. У інтэрв'ю Бі-бі-сі падчас свайго візіту ў Лондан Нетаніягу заявіў, што кіраўніцтву Палесцінскай аўтаноміі можа быць прадастаўлена магчымасць вырашыць любыя пытанні, акрамя праблемы бяспекі. Прэм'ер Ізраіля падкрэсліў, што імкнецца працягнуць перамовы з кіраўніком Палесцінскай аўтаноміі Арафатам і заключыць далейшае пагадненне па блізкаўсходняму ўрэгуляванню. Нетаніягу зазначыў, аднак, што Ізраіль будзе працягваць палітыку пашырэння яўрэйскіх пасяленняў на заходнім беразе Іардана.

### ЗДАРОЎЕ ЕЛЬЦЫНА ЗНАЧНА ПАЎПЛЫВАЛА НА ФОНДАВЫ РЫНАК

Інфармацыя аб магчымым пераносе аперацыі прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну дэстабілізавала фондавы рынак. Пасля значнага зніжэння цэн на каштоўныя паперы ў аўторак, у сераду на рынку ўсталявалася зацішша, выклікае чаканнем вынікаў кансіліуму медыкаў. У выпадку, калі кансіліум вырашыць перанесці аперацыю, гэта ў чарговы раз стане сведчаннем таго, што аперацыя рызыкоўная для жыцця Ельцына. Такі расклад падзей у сваю чаргу адразу выкліча выкідванне буйных пакетаў акцый.

### ТРАГЕДЫЯ ПАДЧАС АДКРЫЦЦЯ «ПЛАНЕТЫ ГАЛІВУД»

Двое юнакоў загінулі ў выніку падзення з вышыні падчас адкрыцця ў Маскве рэстарана «Планета Галівуд». Адзін з іх памёр на месцы, другі — у бальніцы, куды трапіў з цяжкімі траўмамі. Юнакі ўзлезлі на пажарную лесвіцу дома 34 па вуліцы Чырвоная Прэсня, каб убачыць вядомага акцёра Арнольда Шварцэнегера і іншых «зорак», якія прыехалі на адкрыццё рэстарана. Прыступка лесвіцы на ўзроўні пятага паверха зламалася і абодва юнакі аказаліся на зямлі. З-за адсутнасці дакументаў іх асобы адразу не ўстанавілі. Пацярпеўшым на выгляд 17-18 гадоў. На адкрыццё рэстарана сабралася 30—35 тысяч чалавек.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

У княстве Абу-Дабі, якое ўваходзіць у састаў Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, забаронена публічнае курэнне кальяна: вельмі шмат дыму і вельмі гучнае булькание ўтварае гэты курыльны прыбор. Аматары правесці гадзіну-другую пасля абеду ў вулічным кафэ за мірнай гутаркай з сябрамі, якая ўпрыгожваецца кальянам, расчараваны. Аднак і скаргаў абывацеляў, якія пражываюць па суседству з кафэ, было нямала. Іх і прынялі ў разлік улады, забараняючы кальян.

**Асашыэйтэд Прэс**

Конкурсы прыгажосці, якія праходзяць паўсюдна, не абмінулі і свет кінолагаў. Клуб сабакаводаў у амерыканскім штаце Масачусетс правёў гэтымі днямі першы штогадовы конкурс прыгажосці для сабак. Удзельнікі конкурсу сабачай прыгажосці спаборнічалі ў розных катэгорыях. Шатландская аўчарка Прынцэса Рэбская заваявала першае месца ў катэгорыі «апранутых пародзістых сабак». Да конкурсу былі дапушчаны і дварнякі. У састаў журы ў якасці «кансультантаў» уваходзілі сабакі.

**Асашыэйтэд Прэс**

У калумбійскай сталіцы Багаце прахожыя ходзяць па вуліцы, не адрываючы вачэй ад зямлі. Зазяваешся — можаш трапіць у каналізацыйны або водаправодны люк. Справа ў тым, што ў горадзе пачасціліся крадзяжы накрывак, якіяшто прыкрываюць гэтыя люкі. Толькі за першую палову гэтага года было ўкрадзена 14 тысяч накрывак. Зладзеі прадаюць іх жыхарам за 50 долараў за штуку. Гэты сумніўны бізнес часам прыводзіць да няшчасных выпадкаў.

**Рэйтэр.**

*Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь*
*Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь*

## Прапановы Канстытуцыйнага суда па пытанню аб вынясенні на рэферэндум праектаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (у парадку артыкула 7 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь»)

У адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» Канстытуцыйны суд заснаваны для ажыццяўлення кантролю за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў, забеспячэння вяршэнства Канстытуцыі і яе непасрэднага дзеяння на тэрыторыі рэспублікі, зацвярджэння законнасці ў праватворчасці і правапрымяненні.

6 верасня 1996 г. Вярхоўны Савет прыняў Пастанову «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню», на які разам з іншымі пытаннямі вынесены два праекты змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі 1994 года, ініцыіраваныя, адпаведна, Прэзідэнтам і групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Праекты носяць узаемавыключальны характар, таму што ў першым варыянце прапануецца рэфарміраванне практычна ўсіх галін улады ў рамках прэзідэнцкай рэспублікі, у другім — скасаванне пасады Прэзідэнта і функцыянаванне дзяржаўнага механізма ва ўмовах парламенцкай рэспублікі.

20 верасня 1996 года Канстытуцыйны суд узбудзіў вытворчасць па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню». Падставай да ўзбуджэння вытворчасці з'явілася прапанова Старшыні Вярхоўнага Савета С.Г. Шарэцкага, у якой ён просіць праверыць на прадмет адпаведнасці дзеючай Канстытуцыі пастанову Вярхоўнага Савета ў частцы, якая датычыцца вынясення на рэспубліканскі рэферэндум указаных вышэй праектаў. У прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета ўказваецца, што згодна з часткай другой артыкула 149 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум. Дзеючая Канстытуцыя не прадугледжвае магчымасці прыняцця новага Асноўнага закона шляхам рэферэндуму. На думку С.Г. Шарэцкага, на рэспубліканскі рэферэндум выносяцца два праекты фактычна новых канстытуцый, якія карэнным чынам мяняюць існуючую сістэму вышэйшых дзяржаўных органаў, іх кампетэнцыю і прапануюць зусім новую мадэль арганізацыі ўлады.

Не прадказваючы вынікаў разгляду справы «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню», Канстытуцыйны суд лічыць, што найбольш прымальным выхадам з сітуацыі, якая склалася, было б не вынясенне судовага рашэння, а знаходжанне ўзаемаразумення паміж галінамі ўлады на аснове дзеючай Канстытуцыі і законаў.

На думку суда, паспешлівыя і непрадуманыя ініцыятывы па канстытуцыйнаму рэфарміраванню абвастрылі і без таго складаную абстаноўку ў рэспубліцы, узмацнілі палярызацыю грамадскіх меркаванняў, што тоіць непрадказальныя наступствы для маладой беларускай дзяржавы.

Суд лічыць, што стабільнасць у грамадстве забяспечваецца перш за ўсё стабільнасцю яго Асноўнага закона, безумоўным выкананнем яго патрабаванняў усімі без выключэння дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі. Дзеючая Канстытуцыя дае ўсе магчымасці для нармальнага функцыянавання ўсіх галін улады, іх узаемадзеяння. Крызіс, у якім сёння знаходзіцца рэспубліка, выкліканы не недасканаласцю дзеючай Канстытуцыі, а ігнараваннем яе асноўных палажэнняў, прамым парушэннем нормаў Канстытуцыі і законаў. На недапушчальнасць такога становішча суд неаднаразова звяртаў увагу ў сваіх пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці, а таксама ў заключэннях па канкрэтных справах.

Кіруючыся артыкулам 7 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

ПРАПАНУЕ:

1. Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія ініцыіравалі вынясенне праектаў Канстытуцыі на рэферэндум, адазваць свае прапановы.
2. Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прыняць усе меры па стабілізацыі абстаноўкі і зацвярджэнню канстытуцыйнай законнасці і правапарадку, якія ад іх залежаць, будаваць свае ўзаемаадносіны выключна на аснове дзеючай Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь.
3. З улікам складанасці перажываемага беларускім народам гістарычнага перыяду не прымаць у бліжэйшы час спроб змяненняў Асноўнага закона дзяржавы.

**Прапановы прыняты на пасяджэнні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь 24 верасня 1996 г.**

## Прадстаўнікі службаў прафілактычнай медыцыны Беларусі збяруцца ў Мінску

**23 верасня санітарна-эпідэміялагічная служба рэспублікі адзначыла сваё 70-годдзе.**

Да гэтай даты прымеркаваны IX з'езд работнікаў прафілактычнай медыцыны Рэспублікі Беларусь, які пройдзе 26-27 верасня ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце. Каля 400 дэлегатаў збяруцца ў Мінску. Возьмуць удзел у рабоце з'езда і госці з краін СНД і Літвы. Адкрывае з'езд віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч. Атрымаў запрашэнне на гэта мерапрыемства і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

Сярод пытанняў, якія будуць разглядацца і абмяркоўвацца на з'ездзе, праблемы прафілактычнай медыцыны, аховы навакольнага асяроддзя і барацьбы з інфекцыйнымі захворваннямі.

Прафілактыка ў галіне медыцыны высокаразвітых краін мае асабліва, важнае значэнне. І гэта цалкам апраўдана, бо, як вядома, папярэдзіць хваробу значна лягчэй, чым вылечыць. Апошнім часам усё больш увагі прафілактычнай медыцыне ўдзяляецца і ў Беларусі. Сведчаннем таму — IX з'езд работнікаў прафілактычнай медыцыны Беларусі.

**Сяргей ПРОТАС.**

***Віншую*** *сябра Сяргея Петрыкевіча з днём нараджэння. Жадаю ў твае дваццаць тры здароўя, шчасця і чыстага кахання.*

***Дзіма, в. Замасточча.***

***Сардэчна віншуем*** *з днём нараджэння нашага татачку Уладзіміра Юльянавіча Жукоўскага. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці.*

***Сям'я Казок, г. Навагрудак.***

## *СПОРТ*

### *ФУТБОЛ ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## БАРАЦЬБА АБВАСТРЫЛАСЯ НЕ ТОЛЬКІ ЗА «ЗОЛАТА»...

За сем тураў да завяршэння чэмпіянату Беларусі ў першай лізе прэтэндэнтаў на чэмпіёнства па-ранейшаму два — мінскае «Дынама» і МВКЦ, а вось з бронзавым прызёрам, здаецца, усё стала ясна. Ім стане, як відаць, бабруйская «Белшына», паколькі яе сапернікі ў барацьбе за трэцяе месца — «Атака-Аўра» і «Дынама-93» гуляюць апошнім часам, атрымліваючы ў свае вароты галы пачкамі. Чарговы, 23-ы тур не стаў тут выключэннем.

Падначаленыя Віктара Сокала, якія ў сярэдзіне сезона сталі парушальнікамі спакою каманд-лідэраў, прайгралі з разгромным лікам 0:6 землякам-дынамаўцам. Нязменныя пакуль чэмпіёны рэспублікі зараз забіваюць сапернікам як мага больш галоў, мяркуючы, відаць, што на фінішнай прамой яны могуць стаць рашаючым козырам у барацьбе за «золата» ў выпадку роўнай колькасці ачкоў з мазырскім МВКЦ. Праўда, палескія футбалісты таксама не спяць у шапку і па магчымасці павялічваюць свой галявы запас. З поспехам яны зрабілі гэта ў Наваполацку, перамогшы мясцовы «Нафтан-Дэвон» з лікам 3:0. Столькі ж «сухіх» галоў прапусціла ў свае вароты «Атака-Аўра». А «пакрыўдзіла» мінчан у сябе дома ўсё тая ж «Белшына».

Цікавая барацьба за выжыванне разгараецца ў нізе турнірнай табліцы. Аутсайдэр сезона рэчыцкі «Ведрыч» у апошніх некалькіх турах зрабіў рэзкі рывок угору і ўжо знаходзіцца ў групе рызыкі на вылет з першай лігі не ў адзіночку, а разам з пяццю камандамі. Дома рэчыцкія футбалісты з лікам 1:0 перамаглі «Маладзечна». Перамог дабіліся і іншыя кандыдаты ў другую лігу. Лідскі «Абутнік» адолеў віцебскі «Лакаматыў-96» 2:0, магілёўскае «Тарпеда» — гродзенскі «Нёман» — 1:0.

Вынікі астатніх сустрэч:
Дынама (Бр) — Тарпеда (Мн) — 1:1
Шахцёр — Днепр — 0:1

**Турнірная табліца пасля 23 тураў**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 23 | 19 | 3 | 1 | 68-15 | 60 |
| 2. МВКЦ | 23 | 19 | 2 | 2 | 53-12 | 59 |
| 3. Белшына | 23 | 16 | 2 | 5 | 57-26 | 50 |
| 4. Атака-Аўра | 22 | 12 | 5 | 5 | 25-22 | 41 |
| 5. Лакаматыў-96 | 23 | 10 | 8 | 5 | 34-18 | 38 |
| 6. Дынама-93 | 21 | 11 | 4 | 6 | 26-22 | 37 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 23 | 11 | 4 | 8 | 36-37 | 37 |
| 8. Маладзечна | 23 | 9 | 5 | 9 | 37-28 | 32 |
| 9. Днепр | 23 | 9 | 4 | 10 | 25-25 | 31 |
| 10. Дынама (Бр) | 23 | 5 | 9 | 9 | 29-34 | 24 |
| 11. Шахцёр | 23 | 5 | 4 | 14 | 17-38 | 19 |
| 12. Тарпеда (Мн) | 23 | 4 | 6 | 13 | 19-46 | 18 |
| 13. Нёман | 22 | 4 | 5 | 13 | 18-42 | 17 |
| 14. Абутнік | 23 | 4 | 4 | 15 | 18-36 | 16 |
| 15. Тарпеда (Мг) | 23 | 4 | 4 | 15 | 20-55 | 16 |
| 16. Ведрыч | 23 | 4 | 3 | 16 | 13-58 | 15 |

24-ы тур пройдзе 29-30 верасня. Матчы з удзелам лідэраў: «Атака-Аўра» — «Дынама» (Мн), «Дынама-93» — МВКЦ, «Маладзечна» — «Белшына».

### *XXXII СУСВЕТНАЯ ШАХМАТНАЯ АЛІМПІЯДА*

## З ПЕРАМЕННЫМ ПОСПЕХАМ

На XXXII Сусветнай шахматнай алімпіядзе ў Ерэване беларусы па-ранейшаму выступаюць з пераменным поспехам.

У восьмым туры няўдача напаткала нашых мужчын, квартэт якіх уступіў 1:3 першай зборнай гаспадароў. З нічыйнымі вынікамі завяршылі свае партыі Гельфанд і Аляксандраў, а Шульман і Дыдышка — прайгралі.

А вось шахматысткі Беларусі значна палепшылі сваё турнірнае становішча, упэўнена абыграўшы зборную Манголіі 2,5:0,5. Выйгралі партыі Заяц і Лагвінава, унічыю згуляла Загорская.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.01 | 19.00 | 11.59 |
| Віцебск – | 6.51 | 18.50 | 11.59 |
| Магілёў – | 6.50 | 18.50 | 12.00 |
| Гомель – | 6.49 | 18.45 | 11.56 |
| Гродна – | 7.18 | 19.13 | 11.55 |
| Брэст – | 7.17 | 19.16 | 11.59 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 27 верасня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Пятра.**

**К. Казьмы і Дзям'яна, Лаўрэна.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Віцебску — 7—9, Гродне — 8—10, Брэсце — 9—11, Гомелі — 10—12 градусаў.

У наступныя двое сутак: 27-га — па ўсходу дажджы; 28-га — пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 3—8, 28-га па захаду месцамі замаразкі да 0 — мінус 2; удзень — 9—14 градусаў цяпла.

*КАМЕНТАРЫЙ*

# ІНВЕСТЫЦЫІ: ПРАГРАМЫ І РЭЧАІСНАСЦЬ

**ПЫТАННЕМ ЖЫЦЦЯ або смерці называюць часам прыцягненне ў эканоміку рэспубліку замежных і ўнутраных інвестыцый. Такая пастаноўка пытання цалкам абгрунтаваная. Мадэрнізацыя і абнаўленне вытворчых фондаў — нязначныя, іх зношанасць дасягае 60 працэнтаў (па сутнасці, мы сёння праядаем вытворчы патэнцыял, створаны раней)... Карацей, разам з пытаннем звычайнага выжывання на парадак дня гэтак жа востра выносіцца пытанне захавання рэспублікі як індустрыяльнай дзяржавы.**

У сувязі з гэтым нельга не звярнуць увагі на распрацаваную пад эгідай Міністэрства эканомікі Нацыянальную праграму прыцягнення інвестыцый у эканоміку рэспублікі, адобраную Кабінетам Міністраў і надрукаваную нядаўна ў «Нацыянальнай эканамічнай газеце». Вядома, праграма — гэта яшчэ не сама справа, увогуле, розных праграм было шмат... Тым не менш, нават поўнае і непрадузятае ўсведамленне праблемы (а, відаць, найбольш адметнай асаблівасцю гэтай праграмы з'яўляецца тое, што ў ёй не хаваецца глыбіня інвестыцыйнага крызісу ў эканоміцы рэспублікі) — гэта таксама нямала. Варта таксама ўлічыць наступнае: як запісана ўжо ў Асноўных палажэннях праекта праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996—2000 гады, які цяпер абмяркоўваецца, інвестыцыйная палітыка будзе ажыццяўляцца ў адпаведнасці з адзначанай праграмай прыцягнення інвестыцый.

У апошняй, у прыватнасці, канстатуецца, што, згодна з экспертнымі ацэнкамі, аб'ём інвестыцый у 1995 годзе ў параўнанні з 1990-м знізіўся ў 4 разы; усяго ў эканоміку рэспублікі ў 1995 годзе інвесціравана 22 трыльёны рублёў, або каля 2 мільярдаў долараў. (Па некаторых ацэнках, трэба было б 6-7 мільярдаў.)

Зусім нязначныя замежныя інвестыцыі — 372,3 мільёна долараў. У тым ліку інвестыцыйныя крэдыты складаюць 143 мільёны, а прамыя інвестыцыі — усяго 14,7 мільёна (між іншым, асобныя эканамісты называюць і значна меншую лічбу прамых замежных інвестыцый — 2 мільёны долараў).

Падзенне капітальных укладанняў парушыла прапорцыі аднаўлення фондаў: аб'ёмы выбыцця асноўных фондаў у некалькі разоў перавышаюць іх увод, знос асноўных вытворчых фондаў у шэрагу галін, як сказана ўжо, наблізіўся да 60 працэнтаў, або да мяжы, «за якой пачынаецца фізічны распад вытворчага патэнцыялу».

Вядома, крызіс інвестыцыйнай сферы ідзе ў нагу з агульным крызісам, яго сілкуюць у першую чаргу інфляцыя і дэфіцыт інвестыцыйных рэсурсаў у патэнцыяльных айчынных інвестараў. Пэўныя прычыны ўплываюць і на актыўнасць замежных інвестараў. Яны ў праграме не называюцца, тым не менш, можна меркаваць, што першачарговымі прычынамі з'яўляюцца наша «рынаёчная памяркоўнасць», пэўная нестабільнасць і слабае ўзаемадзеянне з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, у першую чаргу з Міжнародным валютным фондам, а апошнім часам і яўнае напружанне ў адносінах з ім. (Між іншым, нярэдка дарогу замежным інвестарам пракладвае менавіта МВФ, г. зн. інвестары хутчэй ідуць у тыя краіны, да якіх ёсць давер у яго. Вядома, ідуць у тым выпадку, калі мяркуюць атрымаць большую аддачу, большы прыбытак, чым у сябе, у сваёй краіне.) На сённяшні дзень рэспубліка не можа пахваліцца буйнымі праектамі з прамым удзелам замежных інвестараў, акрамя, можа, фордаўскага, прычым і апошні знаходзіцца яшчэ толькі на самым пачатку яго рэалізацыі.

Можна меркаваць, адпаведныя, прымальныя ўмовы як для замежных, так і для айчынных інвестараў прапануе праграма. Так, у ёй ужо адразу падкрэсліваецца, што прыток інвестыцыйнага капіталу ў вялікай ступені залежыць «ад укаранення рыначных механізмаў у эканоміцы і прыхільнасці прынцыпу вяршэнства права». Гэтыя аспекты называюцца не выпадкова. Адносна «рыначных механізмаў» ужо зазначана, спынімся на другім аспекце, прычым выкарыстаем выкладкі самой жа праграмы. Згодна з імі, інвестыцыйная дзейнасць цяпер рэгулюецца больш як 70 законамі, некалькімі сотнямі рашэнняў Прэзідэнта і ўрада, некалькімі тысячамі іншых падзаконных актаў... Вядома, дакладнасці пры такім масіраваным рэгуляванні чакаць нельга... Прававая база, зазначаецца ў праграме, павінна будавацца на ніжэйпрыведзеных асноўных прынцыпах: стабільнасць заканадаўства (надзвычай актуальна для нас), неканфліктнасць актаў заканадаўства паміж сабой, заўчаснае інфармаванне інвестараў аб змяненні ці прыняцці актаў заканадаўства, абарона інвестараў ад неправамерных дзеянняў дзяржаўных органаў (апошні прынцып варта было б вылучыць асобна) і г. д.

Немалаважныя і наступныя моманты: у праграме гаворыцца таксама аб стварэнні ў свеце прыстойнага іміджа Беларусі як краіны-рэцыпіента інвестыцый (варта прыгадаць: цяпер у нас гэты імідж хутчэй адмоўны. Па некаторых ацэнках, можа, і занадта песімістычных, наша краіна па прыцягальнасці для замежных інвестараў знаходзіцца на 147-м месцы ў свеце), развіцці ўзаемаадносінаў з Еўрапейскім саюзам і з экспертнымі міжнароднымі арганізацыямі і міжнароднымі фінансавымі інстытутамі; адным з асноўных прыярытэтаў Беларусі называецца яе ўступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Вядома, вызначаны прыярытэтныя галіны, пералічым іх усе: гэта прыборабудаванне, электроніка, дакладнае машынабудаванне, біятэхналогіі, энергетыка — з пункту гледжання высокіх тэхналогій; лясная, дрэваапрацоўчая, аўтамабільная, хімічная і нафтахімічная прамысловасць — зыходзячы з экспартных магчымасцей, лёгкая і харчовая прамысловасць з пункту гледжання прыярытэту галін, якія працуюць на канчатковы попыт; жыллёвае будаўніцтва і аб'екты інфраструктуры — з пазіцыі сацыяльнай значнасці, інвестыцыйныя праекты, звязаныя з рэалізацыяй праграмы ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, — зыходзячы з дзяржаўных інтарэсаў...

Калі суаднасіць гэтыя прыярытэты з тым вытворча-прамысловым патэнцыялам, які ў нас ёсць, нельга не заўважыць: акрамя станкабудавання і сельгасмашынабудавання, ды яшчэ прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, ён у праграме задзейнічаны практычна ўвесь, прычым стаўка пры вызначэнні прыярытэтаў яўна рабілася на цяперашнія айчынныя гіганты. Ці правамерна?.. Кола, здаецца, усё ж шырокае. Прыярытэты для таго і вызначаюцца, каб сканцэнтраваць увагу і сродкі на адзінкавых, вузкіх напрамках, інакш — зноў распыленне. Важны момант — крытэрыі, па якіх вызначаюцца прыярытэты. Так, думаецца, з іх неабгрунтавана выключаны паслугі ў міжнародных перавозках, асабліва калі ўлічваць той факт, што, як часта зазначаюць у нас, Беларусь знаходзіцца на перакрыжаванні еўрапейскіх дарог. Ужо само развіццё падзей падказвае гэты напрамак: за апошнія гады ў рэспубліцы з'явілася мноства міжнародных аўтаперавозчыкаў, колькасцю да 800. Гэтая паслуга здольна даць найхутчэйшы эканамічны эфект (як, дарэчы, любога роду паслугі). І ў той жа час сумніўна, што мы можам атрымаць хуткі эфект, напрыклад, ад прыярытэтнага развіцця электронікі, калі ўлічваць нашу адсталасць у гэтай галіне ад Захаду і ў той жа час відавочную экспартную скіраванасць айчыннай эканомікі, а г. зн. верагоднае адшукванне рынкаў збыту для электронікі на тым жа Захадзе. (Для даведкі: заходнееўрапейскі камп'ютэрны канцэрн ICL, паводле сведчання яго прадстаўнікоў на беларускім рынку, толькі на даследаванні і развіццё сваёй прадукцыі накіроўвае 2 мільёны долараў на працягу аднаго працоўнага дня. Ці гатовы мы да такіх маштабаў і адпаведнай канкурэнцыі?)... Відавочна, што пры вызначэнні прыярытэтаў бярэ верх прывычная арыентацыя на свае «штукі і тоны», хоць куды лепш для эканомікі, для эканамічнага ўздыму карыстацца больш універсальным сродкам вымярэння — выручаным капіталам, незалежна ад якога роду дзейнасці ён атрыманы. Як карыстаюцца іншыя краіны.

Выключэнне з прыярытэтаў таго ці іншага накірунку або галіны зусім не азначае ўсякай адмовы ад іх. Прыярытэты азначаюць перш за ўсё падтрымку іх з боку дзяржавы, стварэнне для іх ільготных умоў. Зрэшты, аб гэтым жа сказана і ў праграме, якая прадугледжвае, адпаведна, падатковыя і мытныя льготы, ільготныя крэдыты, бюджэтныя пазыкі, а таксама прамое ўкладанне капіталу ў найбольш перспектыўныя праекты. Пры гэтым таксама варта заўважыць: як заяўлена ў праграме, дзяржава адмаўляецца ад традыцыйнага размеркавання бюджэтных сродкаў на капітальныя ўкладанні паміж галінамі, г. зн. паміж усімі ў пэўнай прапорцыі... Такі падыход — цалкам правамерны, іншая справа, як усё будзе ў рэчаіснасці? Тым больш, што тыя ж гіганты — усе вакол дзяржаўныя, за якія адказвае дзяржава ж...

У праграме таксама ўдзяляецца значная ўвага размяшчэнню ў рэспубліцы «вытворчасцей высокіх тэхналогій», стварэнню навукаваёмістай прадукцыі. Мэта зразумелая, калі ўлічыць, што толькі на гэтай базе можна істотна зрушыць усю прамысловасць у цэлым, вывесці ўсе галіны на якасна новы ўзровень. Праўда, разам з тым у праграме прама прызнаецца, што рэспубліка не мае дастатковага капіталу для фінансавання інавацыйнай сферы. Ухіл — на прыватныя айчынныя і замежныя інвестыцыі, «на прыцягненне замежнага вопыту па маркетынгу і навейшых тэхналогіях транснацыянальных карпарацый тыпу «Форд мотарз» і «Матарола». Прычым зазначана, што для прыцягнення буйных інвестараў неабходна ствараць больш спрыяльныя эканамічныя ўмовы, чым у краінах Паўднёва-Усходняй Азіі, Лацінскай Амерыкі і Усходняй Еўропы.

Прапануемыя схема і ўмовы размяшчэння вытворчасцей высокіх тэхналогій, сцвярджаецца ў праграме, маюць перавагу перад стварэннем свабодных эканамічных зон (зрэшты, ужо ў Асноўных палажэннях праекта Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996—2000 гады прадугледжваецца менавіта стварэнне свабодных эканамічных і афшорных зон, тэхнапаркаў, у тым ліку на працягу першага года не менш сямі зон. Праўда, і аб тых жа зонах у нас пакуль што больш адных размоў. Вядома, і чым закончылася гісторыя са стварэннем тэхнапарка на базе мінскага «Цэнтра»... Каб не здарылася так, што пакуль у нас будуць ісці размовы, любая са схем з поспехам будзе прыменена ў суседзяў, і рэспубліка ў выніку страціць для патэнцыяльных інвестараў усякую цікавасць).

Як зразумела ўжо, для рэалізацыі намечаных мераў і мэтаў мяркуецца актыўна прыцягваць як айчынныя, так і замежныя інвестыцыі. Пры прыцягненні замежнага капіталу пераважная арыентацыя — на прамыя капітальныя ўкладанні, якія, прыгадаем, складаюць цяпер зусім нязначную велічыню. Такі падыход цалкам абгрунтаваны і зразумелы, асабліва калі мець на ўвазе цяперашні знешні доўг Беларусі: на 1 студзеня больш як 2 мільярды долараў, што складае 20 працэнтаў ад валавага ўнутранага прадукту краіны (адзнака, якую часам называюць крытычнай).

Маючы на ўвазе айчынныя інвестыцыі, праграма пераважна зыходзіць з самафінансавання прадпрыемстваў (варта прама прызнаць: гэта абсалютна нерэальна. Ва ўсякім разе, на цяперашні і бліжэйшы час). Пры гэтым дзяржава мае намер уздзейнічаць на іх амартызацыйную палітыку — па прычыне таго, што цяпер амартызацыйныя сродкі прадпрыемстваў практычна не выкарыстоўваюцца на аднаўленне асноўных фондаў. Зразумела, да інвестыцыйнага працэсу намечана актыўна прыцягваць банкі (з узмацненнем жорсткасці ўмоў крэдытавання дзяржаўных прадпрыемстваў, спрашчэннем працэдуры рэалізацыі маёмасных даўгоў і г. д. Праўда, пакуль што мы, хутчэй, маем усё наадварот), мяркуецца развіваць лізінг... Тут жа варта заўважыць: па некаторых сведчаннях, цяпер часам паўстае зусім адваротная праблема, праблема размяшчэння інвестыцыйных рэсурсаў — з-за адсутнасці высокаакупных праектаў, высокай рызыкі іх вяртання, зменлівасці падатковай палітыкі і іншых прычын, а таксама з-за той жа нашай нявызначанасці адносна сацыяльна-эканамічнага ўладкавання. Трэба таксама гаварыць аб неэфектыўнасці выкарыстання рэсурсаў. Колькі ўжо сказана ў адрас незавершанага будаўніцтва... Што ў выніку? Незавершанае будаўніцтва ўзрасло з 68 працэнтаў у 1990 годзе да 80 працэнтаў у 94-м. У незавершаным будаўніцтве знаходзіцца больш за 11 тысяч аб'ектаў вытворчага прызначэння (51 працэнт), часова прыпынена або закансервавана будаўніцтва больш як 3 тысячы аб'ектаў... Праўда, праграма называе прычынай такога становішча скарачэнне інвестыцый. Але навошта ж у такім разе новыя будоўлі распачынаць?..

Ніяк нельга абысці наступную крыніцу інвестыцый, якая называецца ў праграме. Яна, у прыватнасці, прадугледжвае заканадаўчыя абмежаванні на вываз капіталу за межы рэспублікі (разам з тым намечана вяртанне ўжо вывезеных рэсурсаў). Думаецца, аднак, што гэта чыста адміністрацыйная мера нічога не дасць, няхай яна і будзе аформлена заканадаўча. Падобныя забароны ўжо былі і выдатна даказалі сваю неэфектыўнасць, калі зноў і зноў трэба гаварыць аб вяртанні вывезеных капіталаў. Гэта мера нават супярэчыць іншым, чыста эканамічным мерам прыцягнення інвестыцый, і здольна ўжо загадзя знішчыць іх магчымы эфект, г. зн. адпудзіць патэнцыяльных інвестараў. Увогуле, свабода руху капіталу выступае найгалоўнейшай умовай таго, што ён ляжа ў сапраўды высокаакупныя праекты.

І яшчэ адна з так званых крыніц (не з праграмы), якую назваў адзін са спецыялістаў Мінэканомікі і што таксама нельга абысці: «чаўнакі». Маўляў, па некаторых звестках, толькі ў «чаўнакоў», якія гандлююць на мінскім стадыёне «Дынама», круціцца ў абароце 2—5 мільярдаў долараў. Трэба ўзяць іх, нельга мірыцца з тым, што гэтыя сродкі працуюць на Турцыю...

Цікавасць да капіталу «чаўнакоў» цалкам зразумелая. Калі не хапае ў дзяржавы. І выказвалася яна неаднойчы. Толькі ці з таго боку заходзім? Будзе самы спрыяльны інвестыцыйны клімат, — будзе дзейнічаць якраз адваротны прынцып, прынцып недатыкальнасці прыватных сродкаў і маёмасці, будзе гарантавана надзейная абарона іх ад любых замахаў — «чаўнакі» самі ўкладуць свае долары ў тыя ці іншыя праекты.

У заключэнне варта прывесці наступныя прагнозныя выкладкі інвестыцыйнай праграмы. У ёй распрацаваны тры варыянты капіталаўкладанняў (на 5, 10 і 15 гадоў) з адпаведнымі (вельмі аптымістычнымі. Відаць, залішне) прагнознымі паказчыкамі эканамічнага эфекту; кожны варыянт прадугледжвае агульныя інвестыцыі на тыя ж 5, або 10, або 15 гадоў у суме 50 мільярдаў долараў...

Справа, як кажуць, стала за малым: знайсці гэтыя сродкі...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## ПАТРЭБНАСЦЬ У ІНВЕСТЫЦЫЯХ У ЭКАНОМІКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Млрд. рублёў*
*Млн. $ ЗША*

| Разлікі зроблены ў цэнах 1995 года, $ 1=11.500 рублёў | 1986--1990 гады | 1991--1995 гады | 1996--2000 гады | 2001--2005 гады | 1996--2005 гады | 2006--2010 гады | 1996--2010 гады | Тэмпы росту ў працэнтах | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 1 варыянт 2000 год да | | II варыянт 2005 год да | | | III варыянт 2010 год да | | | |
| | | | | | | | | 1990 | 1995 | 1990 | 1995 | 2000 | 1990 | 1995 | 2000 | 2005 |
| **I ВАРЫЯНТ** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Валавы ўнутраны прадукт | 966000 | 756580 | 1246600 | x | x | x | x | 243,3 | 387,9 | x | x | x | x | x | x | x |
| | 84000 | 65790 | 108400 | x | x | x | x | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | | 78,3 | 164,8 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Капітальныя ўкладанні за кошт усіх крыніц фінансавання | 226670 | 185170 | 576000 | x | x | x | x | 645,0 | 1548,0 | x | x | x | x | x | x | x |
| | 19710 | 16001 | 50000 | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | 138,0 | 81,7 | 310,5 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Аб'ём капітальных укладанняў у % да ВУП | 23,5 | 24,2 | 46,1 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| **II ВАРЫЯНТ** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Валавы ўнутраны прадукт | 966000 | 756580 | 708970 | 1237970 | 194694 | x | x | x | x | 149,4 | 238,2 | 159,4 | x | x | x | x |
| | 84000 | 65790 | 61650 | 107650 | 169300 | | | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | | 78,3 | 93,7 | 174,6 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Капітальныя ўкладанні за кошт усіх крыніц фінансавання | 226670 | 185170 | 171670 | 405000 | 576000 | x | x | x | x | 161,5 | 387,6 | 162,4 | x | x | x | x |
| | 19710 | 16001 | 14930 | 35070 | 50000 | | | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | 138,0 | 81,7 | 92,7 | 235,0 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Аб'ём капітальных укладанняў у % да ВУП | 23,5 | 24,2 | 25,6 | 32,6 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| **III ВАРЫЯНТ** | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Валавы ўнутраны прадукт | 966000 | 756580 | 616400 | 921150 | x | 1315600 | 2853150 | x | x | x | x | x | 142,2 | 226,6 | 208,6 | 120,0 |
| | 84000 | 65790 | 53600 | 80100 | x | 114400 | 248100 | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | | 78,3 | 81,5 | 149,4 | x | 142,8 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Капітальныя ўкладанні за кошт усіх крыніц фінансавання | 223000 | 185170 | 123270 | 189280 | x | 262450,0 | 575000 | x | x | x | x | x | 114,7 | 275,3 | 178,3 | 145,0 |
| | 19000 | 16001 | 10720 | 16000 | x | 22830,0 | 50000 | | | | | | | | | |
| Тэмпы росту да папярэдняга перыяду, % | 138,0 | 81,7 | 66,6 | 153,5 | x | 138,7 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |
| Аб'ём капітальных укладанняў у % да ВУП | 23,0 | 24,2 | 20,0 | 20,5 | x | 20,0 | x | x | x | x | x | x | x | x | x | x |







## ЛЯ ЧЫСТЫХ ВЫТОКАЎ

Час разбураць і час ствараць — гэтую спрадвечную ісціну міжволі згадваеш, калі бачыш, як на месцы некалі спаленых, знесеных, зганьбаваных цэркваў паўстаюць сёння новыя, яшчэ прыгажэйшыя храмы.

Не абмінуў гаротны лёс і старую вёску Тарасава, што паблізу Мінска. Доўгія дзесяцігоддзі яе жыхары не чулі святых званоў, не бачылі, як гараць лампады перад абразамі прасвятой Багародзіцы.

Менавіта ў гонар нараджэння прасвятой Багародзіцы будуецца цяпер царква ў вёсцы Тарасава. Гэта будзе вялікі, прыгожы комплекс будынкаў на маляўнічым узгорку. А сёння тут ужо дзейнічае Свята-Георгіеўская царква — таксама новая, пабудаваная стараннямі вяскоўцаў менш чым за год. Нядзельная школа створана не толькі для дзятвы: да забытых вытокаў імкнуцца вяскоўцы ўсіх узростаў.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар нядзельнай школы педагог Марыя Дзяркач са сваімі выхаванцамі; настаяцель царквы айцец Сергій — чалавек на вёсцы вядомы, аўтарытэтны; у вясковым храме.

*ПОГЛЯД*

# ВАЕННАЯ СЛУЖБА І ЗАМШЭЛЫЯ МІФЫ АБ ЛЮДЗЯХ У ПАГОНАХ

**Пераўтварэнні ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь набываюць усё больш канкрэтны, глыбока асэнсаваны характар. Рэформы накіраваны на стварэнне надзейнага ваеннага арганізма. На гэтым шляху нямала цяжкасцей, і асабліва эканамічнага характару, але беларуская армія ўпэўнена выконвае свае задачы. Рэгулярна ўдакладняюцца планы баявой падрыхтоўкі войскаў, праводзіцца падрыхтоўка камандзіраў.**

Пытанні арганізацыі баявой падрыхтоўкі неаднаразова выносіліся на пасяджэнні Кансультатыўнага савета пры міністру абароны, у які ўваходзяць прадстаўнікі вайсковых часцей у званні ад лейтэнанта да палкоўніка. Таму любыя пераўтварэнні ў арміі — гэта не капрыз некалькіх чалавек, а старанна выверабыя крокі.

Менавіта па просьбе камандзіраў часцей перагледжана сістэма падрыхтоўкі малодшых спецыялістаў у вучэбных часцях і падраздзяленнях. Цяпер самі камандзіры часцей падбіраюць лепшых салдат і накіроўваюць у «вучэбкі» з умовай, што яны вернуцца ў свае падраздзяленні.

Смела ідуць у арміі і на эксперыменты. І многія новаўвядзенні прыжываюцца. Сярод іх — камплектаванне Узброеных Сіл па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Ён даў магчымасць служыць салдатам і сяржантам практычна побач з домам, што дазваляе часта бачыцца з роднымі і блізкімі. А гэта, як вядома, здымае псіхалагічную нагрузку, асабліва на пачатку службы. З'явілася магчымасць бацькам, грамадскасці па месцы пастаяннага пражывання салдата прымаць удзел у выхаваўчым працэсе воінаў-землякоў.

Замацаваліся ў войсках і прадстаўнікі вайсковых калектываў. Яны выбіраюцца з ліку ваеннаслужачых тэрміновай службы і з'яўляюцца сувязным звяном паміж камандзірам і яго падначаленымі, дапамагаюць яму ведаць настрой і праблемы асабовага саставу. Прадстаўнік вайсковага калектыву выказвае грамадскую думку, прымае ўдзел у вырашэнні сацыяльна-бытавых праблем саслужыўцаў.

Аказалася даволі карысным змяненне распарадку дня, згодна з рашэннем камандзіра часці з улікам пары года, спецыфікі выконваемых работ і іншых фактараў.

Кіраўніцтва Міністэрства абароны, камандзіры аб'яднанняў і часцей імкнуцца рабіць усё, каб асабовы састаў займаўся толькі баявой вучобай.

Цяпер любяць параўноўваць тое, што ёсць, з тым, што было. Дык вось. Нягледзячы на цяжкасці эканамічнага характару, упершыню за ўсе гады існавання беларускай арміі на расійскім палігоне адбыліся вучэбна-баявыя стрэльбы зенітна-ракетных комплексаў «С-300». Усе цэлі былі знішчаны. Гэта канкрэтны вынік беларуска-расійскага ваеннага супрацоўніцтва ў цэлым і баявой вывучкі нашых воінаў ППА — у прыватнасці.

А артылерысты Узброеных Сіл Беларусі ўпершыню выканалі складаныя баявыя стрэльбы з сістэм залпавага агню «Смерч» на беларускай зямлі — Дрэтунскім палігоне. Спецыялісты ведаюць, якая гэта няпростая справа, бо нашы палігоны невялікія па тэрыторыі, і спатрэбілася найвышэйшае майстэрства камандзіраў і ўсіх разлікаў, каб паспяхова выканаць задачу.

Чаму ж часам узнікае памылковае ўяўленне аб прызначэнні арміі? Напэўна таму, што ў сяго-таго ніяк не перабродзяць у свядомасці міфы аб людзях у пагонах.

**<u>МІФ ПЕРШЫ:</u> салдат — бясплатная рабочая сіла.**

Армія заклікана вырашаць дзяржаўныя задачы. Прычым, не толькі па свайму прамому прызначэнню, абараняючы дзяржаўную і тэрытарыяльную незалежнасць рэспублікі. Колькі б каштавалі Беларусі страты, калі б не было сёння сапёраў на палях Віцебшчыны, артылерыстаў і авіятараў у час паводак на рэках? Менавіта да выканання такіх мерапрыемстваў, звязаных з рызыкай і ваеннай спецыфікай, прыцягваецца армія. Дзеля выратавання жыцця іншых, дзеля бяспекі краіны. У ролі нейкай рабочай сілы армейскія падраздзяленні не выступаюць. Наадварот. Камандзіры нясуць строгую адказнасць, калі дапусцяць адступленне.

**<u>МІФ ДРУГІ: камандзіру лягчэй замест баявой падрыхтоўкі заняць падначаленых гаспадарчымі работамі.</u>**

Баявая падрыхтоўка — галоўнае, чым павінен займацца салдат. Для камандзіра яна — прафесіянальны занятак вышэйшага класа. Менавіта ўсё астатняе супярэчыць афіцэру, таму што ў першым выпадку ён абаронены статутамі, дырэктыўнымі дакументамі, інструкцыямі і павучаннямі. Рабі, як прадпісвае дакумент, і справы будуць у парадку. На тых жа гаспадарчых работах прыходзіцца дзейнічаць на свае страх і рызыку.

Разам з тым у асноўным войска можна падзяліць на дзве катэгорыі — баявыя і тылавыя падраздзяленні. Другія якраз і закліканы забяспечваць усе магчымасці для захавання першых у максімальнай баявой гатоўнасці. Дарэчы, у заходніх арміях колькасць абслуговага персаналу знаходзіцца ў межах 40—50 працэнтаў ад колькасці ваеннаслужачых. Менавіта тылавыя падраздзяленні закліканы і ў мірны, і ў ваенны час забяспечваць баявыя падраздзяленні прадуктамі харчавання, боепрыпасамі, палівам, маёмасцю і г. д. Так што калі і бываюць салдаты на сельгасработах, то гэта не ва ўрон боегатоўнасці, а, наадварот, на яе карысць. Задача накарміць і апрануць салдата не менш важная, чым задача прафесіянальна яго падрыхтаваць.

**<u>МІФ ТРЭЦІ: вышэйшы камандны састаў хоча нажыцца за кошт арміі.</u>**

Галоснасць і адкрытасць праніклі ва ўсе структуры Узброеных Сіл. Таму вядома, як выдвараюцца з армейскіх радоў тыя, хто не апраўдвае даверу.

Міфы — яны і ёсць міфы. А рэальнасць такая, што Узброеныя Сілы на вачах пераўтвараюцца. У арміі падае злачыннасць. За восем месяцаў бягучага года ў параўнанні з аналагічным перыядам папярэдняга года колькасць злачынстваў скарацілася на 29,9 працэнта, а здарэнняў — на 26 працэнтаў.

Расце колькасць ваеннаслужачых, якія праходзяць службу па кантракту: іх ужо больш як 10 тысяч. Яны папаўняюць рады прафесіяналаў разам з афіцэрамі і прапаршчыкамі.

Вядома, ёсць у падраздзяленнях і недахопы. Важна жаданне хутчэй пазбавіцца ад іх, што і характэрна для кіраўніцтва ваеннага ведамства і пераважнай большасці нас, афіцэраў.

**Сяргей ВЕРАШЧАК, падпалкоўнік,**
**Міхаіл СЦЕПАНОВІЧ, маёр.**

*ЧАЛАВЕК СЯРОД ЛЮДЗЕЙ*

# MEMENTO MORI...

**НЯМА АПОВЕДУ больш сумнага на свеце, чым аповяд аб Рамэо ды Джульеце, сцвярджае вялікі Шэкспір. З ім цяжка спрачацца. Хіба што аповяд пра саму смерць? Між тым, гэта самая звычайная з'ява, такая ж, як нараджэнне, з якога ўсё і пачынаецца. І як жаніцьба, бо ёй падаўжаецца. Добра, калі ідзе адно за адным, у строгай адпаведнасці, як гэта разумна задумана прыродай. І дрэнна, калі даюць аб сабе знаць нейкія перакосы. Віцебшчына апошнім часам назаўсёды развітваецца штогод з 20 тысячамі сваіх жыхароў, на свет жа з'яўляецца толькі 15 тысяч. Разрыў мае тэндэнцыю да росту. Калі далей так пойдзе, Рамэо можа і не знайсці сваю Джульету. Як гэта ўжо здараецца ў нашых вёсках, дзе дэмаграфічныя няўвязкі адчуваюцца найбольш востра...**

### ЯК ЦЯРЭШКУ ЖАНІЛІ

Са скарбонкі мінулага ўзялі гэты звычай спецыялісты Лепельскага раённага цэнтра народнай творчасці і прапанавалі яго сёння. Правялі абрадавую гульню «Цярэшкава жаніцьба» ў сельскім клубе вёскі Барсукі. Той звычай знаёміў некалі кавалераў і дзяўчат, каб ніхто не застаўся без пары, знайшоў сваіх суджаную і суджанага. Па сцэнарыю ўсе, хто знаходзіўся ў клубе, павінны былі ўключыцца ў гульню. Набралася ў Барсуках 16 пар. Але каля сцен засталіся стаяць хлопцы. Ім не хапіла дзяўчат, каб выйсці ў круг. Менш іх у вёсцы. Так і не прыжыўся ў Барсуках новы звычай...

Не толькі ў Лепельскім раёне такая «нестыкоўка» з колькасцю жаніхоў і нявест. І не толькі са стварэннем вясковай сям'і праблема. У Лёзненскім раёне, напрыклад, б'юць трывогу наконт трываласці сем'яў: летась тут адбылося 160 шлюбаў і 86 разводаў. Прычым сітуацыя пагаршаецца з кожным годам. Калі пяць гадоў назад на 10 шлюбаў прыпадалі 3 разводы, то цяпер — 5. У самім Лёзна і таго больш: летась зарэгістравалі шлюб 72 пары, скасавалі — 42. Вядома, менш шлюбаў — менш дзяцей. Летась у раёне нарадзілася 215 малых, або 9 у разліку на 1000 жыхароў, а ў 1991-м было адпаведна 295 і 12. У райцэнтры ў мінулым годзе каэфіцыент нараджальнасці (колькасць народжаных на 1000 чалавек насельніцтва) у параўнанні з 1991-м знізіўся на 36 працэнтаў, у сельскай мясцовасці — на 20. Перавышэнне колькасці памёршых над колькасцю народжаных дало змяншэнне насельніцтва раёна на 849 чалавек толькі за апошні год.

Гэта — усходні раён. А калі перамясціцца на захад, дзе большая шчыльнасць насельніцтва? Карціна атрымліваецца тая ж.

У работнікаў статыстыкі з'явіўся новы тэрмін у вызначэнні прычын негатыўных змяненняў дэмаграфічнай сітуацыі: нізкі ўзровень жыцця. І гэта не дасягненне галоснасці. У 80-я гады статыстыка сведчыла аб росце нараджальнасці, павелічэнні колькасці насельніцтва Віцебшчыны, тэндэнцыя станоўчых змяненняў у дэмаграфічнай сітуацыі была наяве. Прычым лепшым рабіўся стан спраў нават у вёсцы. Да 1993 года ўпершыню адбылося павелічэнне колькасці жыхароў вёскі, а ў цэлым прырост насельніцтва вобласці складаў штогод 0,7—0,8 працэнта. З 1993 года «крывая» пайшла ўніз. Тады нарадзілася на 44 чалавекі менш, чым памерла. Кожныя паўтара года даюць «паскарэнне»: смяротнасць становіцца большай на 1000 чалавек. Прычым у сельскай мясцовасці яна павялічылася ў два разы ў параўнанні з гарадамі.

### СУПЕРБАБУЛІ ПАГОДЫ НЕ РОБЯЦЬ

Між тым, паводле даных ЮНЕСКО, Віцебская вобласць была лідзіруючай сярод роўнавялікіх рэгіёнаў зямнога шара па працягласці жыцця жанчын, перш за ўсё жыхароў сельскай мясцовасці.

Яны і сёння радуюць нас, бабулі-доўгажыхаркі. Бывае, што і мужчыны. 60 чалавек на Віцебшчыне размянялі другую сотню — факт, прыемны сам па сабе, як надзея. Старасць не пужае, калі акружаны сталы чалавек цеплынёй і ўвагай. У Паставах, краі песенным і музычным, не могуць забыць мерапрыемства, гераінямі якога былі... бабулі. У раённым Доме культуры правялі тут конкурс на званне супербабулі. Атрымалася вельмі прыгожае свята. Бабулі расказвалі казкі і загадвалі загадкі, збіралі на хуткасць унучку ў школу, спаборнічалі ва ўменні даць трапную рэкламу, прапаноўвалі «фірменныя» пірагі. Прызнаная самай абаяльнай Любоў Мікалаева спявала калыханкі ўласнага сачынення, віцэ-бабуля Юзэфа Дудчанка «піша» іх на польскай мове, а самая знаходлівая Лідзія Стралец найбольш удала абараніла свой фасон на дэманстрацыі мадэляў адзення. А супербабуляй стала Таццяна Маракіна, яна, дарэчы, свае бабульчыны абавязкі спалучае з працай. Супербабуля Пастаў — прадпрымальніца.

Аднак радасць гэта, якую пенсіянеркі падаравалі Паставам, хутчэй, выключэнне з правілаў, чым нармальная з'ява. Старасці наша грамадства зусім не радуецца. А вобласць усё больш набывае «пенсіённы» характар. Віцебшчына лідзіруе сярод абласцей рэспублікі па гэтым паказчыку, як і па некаторых іншых. Па самагенацыду, напрыклад, калі з трох зачатых дзяцей двух забівае аборт. І па дэпапуляцыі, калі назіраецца выраджэнне і выміранне народа як самастойнага этнічнага віду. А ў такую паласу, па вызначэнню Фонду абароны жыцця ля яго вытокаў і генетычнага фонду народа, уступіла рэспубліка. Як падлічылі актывісты гэтага фонду, штогод беларусаў менее на 90 тысяч чалавек. Гэта тэндэнцыя прывядзе да таго, што да 2105 года знікне апошні жыхар Беларусі, як зніклі скіфы, хазары, кімерыйцы, майя...

### ГАЛОЎНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ НА СВЕЦЕ?

11 верасня выдаўся прыемны восеньскі дзень — крыху адпусціў холад. Зводка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома за суткі засведчыла: звычайны дзень «сярэдняй» злачыннасці. І, як заўжды, канстатавала гібель людзей. «Сітраэн» у Гарадку наехаў на жанчыну, што кіравалася кудысьці на веласіпедзе, ад атрыманых траўмаў веласіпедыстка 65 гадоў на месцы памерла. А вось яшчэ больш тыповы выпадак. Калгасны трактарыст у нецвярозым стане не справіўся з кіраваннем трактарам «МТЗ-80», з'ехаў у канаву ў вёсцы Вялікае Сяло Сенненскага раёна. Трактар перакуліўся, пасажыр, 40-гадовы мясцовы жыхар, ад атрыманых траўмаў таксама на месцы памёр. Толькі выпадковасць не прывяла да трагічных наступстваў у час свавольства, да якога дадумаліся два маладыя чалавекі 25 гадоў. Ранкам, у 7 гадзін 15 хвілін яны распачалі стральбу каля кафэ, размешчанага на аўтазаправачнай станцыі ў вёсцы Тросна Полацкага раёна. Малайцы зрабілі пяць стрэлаў з паляўнічых ружжаў 16-га калібру.

Калісьці ў тэмпе маршу мы бадзёра спявалі: «Жизнь человека, жизнь человека — главная ценность на свете!» І хацелі ў гэта верыць. Што сёння жыццё? Гульня? І гэта яшчэ ў лепшым выпадку. Як бараніцца ад злачыннасці, як бараніць чалавека, калі ён сам не жадае гэтага рабіць? Факты — рэч хоць і ўпартая, але могуць быць і выпадковасцю. Таму зноў варта звярнуцца да статыстыкі. За апошнія пяць гадоў амаль у 2 разы павялічылася ў вобласці колькасць смерцяў ад алкагольнага атручэння, утапленняў, самазабойстваў і забойстваў, у 4 разы — ад пажараў і няшчасных выпадкаў — без удакладнення, выпадковага або наўмыснага характару. Прычым у 3,6 раза часцей гэта датычыць мужчын. Скарачаецца колькасць працаздольнага насельніцтва і яго ўдзельная вага, што яшчэ больш пагаршае становішча ў эканоміцы.

Вось хроніка самазабойстваў — самае няўмольнае сведчанне знявагі жыцця. Летась вобласць заняла першае месца ў рэспубліцы па іх колькасці: 602 чалавекі парушылі 6-ю Боскую запаведзь. Не пабаяліся граху ні маладыя, ні старыя. Не ведаю, ці можна так гаварыць у адносінах да самагубстваў, але мне ўяўляецца, што асабліва жахліва, калі гэта робяць старыя. Яны гэта робяць не спантанна, а ўзважана, прадумана і таму жахліва. Пенсіянер з вёскі Парнева Сенненскага раёна абліў сябе бензінам, падпаліў уласны дом і згарэў разам з ім. 86-гадовая старая з Аршанскага раёна звяла рахункі з жыццём, выкінуўшыся з акна шматпавярховага дома. Гінуць недагледжаныя дзеці, якія гуляюць у трансфарматарных падстанцыях, — такі выпадак нядаўна быў у Віцебску. Гінуць на пакінутых ваеннымі аб'ектах, ад свавольства са знойдзенымі снарадамі як часоў вайны, так і на месцы былых ваенных складоў. Звычайна адказнасць за гэта нясуць службовыя асобы, бацькі, кажуць, і так пакараны. Адны пакараны, а іншыя спакойна дазваляюць дзецям гуляць на рыштаваннях гарадскіх шматпавярховак.

Абыякавасць і жорсткасць ідуць побач. Дзесьці тут і бачацца мне прычыны ўсіх нашых бедстваў, а не ў пагаршэнні эканамічнага стану грамадства — яно таксама з'яўляецца вынікам. Уразіла, як паважліва і беражліва ставяцца да сваіх дзяцей кітайскія бацькі. Нядаўна ў Полацку пабывала група дзяцей з Шанхая, бацькі далі кожнаму ў дарогу па 300 долараў на кішэнныя расходы. Каб забяспечыць камфорт у падарожжы, растлумачылі малыя. Дадаўшы, што некаторыя з бацькоў аддалі апошняе. А трэба зазначыць, што Кітай стрымлівае рост насельніцтва, вымушаючы сем'і абмяжоўвацца адным дзіцем.

Усход — справа тонкая, нам не зразумець! Як не зразумець і такое: у Японіі выдадзена і вытрымала шэсць перавыданняў кніга «Практычная дапамога па помсце». У ёй даюцца разгорнутыя практычныя парады, пачынаючы з таго, як плюнуць у талерку босу, які пакрыўдзіў цябе, і заканчваючы тым, як правільна кінуць бомбу. Выдаўцы лічаць, што павышаная цікаўнасць да кнігі гаворыць толькі аб здароўі нацыі, якая гатова абмяркоўваць любыя тэмы, у тым ліку і такую: як правільна задушыць ахвяру.

Ёсць пагроза, што з'явіцца кніга ў перакладзе і ў нас. І стане падручнікам. Хіба што ўдасца забараніць выданне... Але як забараніць жыць, а дакладней, памерці нешчасліва? Можа, напамін гэты — memento mori — карцінкі з натуры ды лічбы прымусяць некага задумацца і пашкадаваць сваё жыццё, адзінае. Сваё, а заадно і чужое.

**Вольга ШУМІЛІНА.**

**ТРЫ ДАКУМЕНТЫ, якія публікуюцца ніжэй, у тым ліку два аўтографы Вацлава Усцінавіча Ластоўскага, знайшоў я ў 1994 годзе ў адным з архіваў Федэральнай службы бяспекі РФ. Дакументы гэтыя напісаны ў саратаўскай турме УНКУС праз месяц пасля арышту В. Ластоўскага.**

**Першы аўтограф — «Перыяд майго саратаўскага жыцця» не мае даты, аднак па яго зместу і сумежных дакументах можна з вялікай доляй упэўненасці сцвярджаць, што напісаны ён у верасні 1937 года па патрабаванню саратаўскіх чэкістаў, якія вялі следчую справу В. Ластоўскага. Назву дакументу, які складаецца з пяці старонак рукапіснага тэксту, выкананага чарнілам, даў В. Ластоўскі.**

**Зварот-пісьмо да І. Сталіна напісаны па ініцыятыве самога арыштаванага. Гэта таксама пяць старонак тэксту, але напісаны простым алоўкам.**

**Абодва аўтографы, зусім верагодна, апошнія прыжыццёвыя дакументы, напісаныя В. Ластоўскім. Сёння яны публікуюцца ўпершыню, з захаваннем правапісу арыгіналаў і правілаў арфаграфіі, прынятых у 30-х гг.**



# «10 ГАДОЎ БЕЗ ПРАВА ПЕРАПІСКІ», або Турэмныя аўтографы Вацлава Ластоўскага

### ПЕРЫЯД МАЙГО САРАТАЎСКАГА ЖЫЦЦЯ

З Масквы, згодна з пастановай АДПУ, па працэсу СВБ, накіраваны былі: я, Ластоўскі, Родзевіч Часлаў, Зянюк. Амаль праз год прыбыў яшчэ, высланы ў Ішым па тым жа працэсе, Дыла Осіп Лявонцьевіч. Калі я паступіў на работу ў Фундаментальную бібліятэку пры СДУ, там працаваў яшчэ адзін мінчанін, былы навуковы работнік Беларускай акадэміі навук, праф. Волк-Левановіч, высланы з Мінска па якойсьці іншай справе, але не па справе беларускіх нацдэмаў. На кароткі час быў у Саратаве (сказ не закончаны. — **М. І.**)

Мае адносіны з указанымі асобамі былі наступныя: з Чаславам Родзевічам у хуткім часе ў мяне параваліся ўсякія адносіны, таму што я заўважыў, што ён пазбягае мяне. Я зрабіў вывад з яго адносін, што ён, як чалавек, які добра зарабляе, не жадае мець справу з «беднымі родзічамі» [.] І канчаткова парваў з ім.

Зянюк зрэдку наведваў мяне і, значна радзей, я яго. За ўсе шэсць гадоў ён быў у мяне не больш як 12 разоў і [я] заходзіў да яго разы тры-чатыры. Размовы нашы кружыліся вакол нашых службовых становішчаў — сума заробку, кватэрныя ўмовы, здабыча правіянту, гаспадарчыя ўдачы і нягоды, прачытаныя ў газетах весткі аб жыцці на радзіме. Прычым мы разумелі, што вяртання на радзіму нам няма, і што трэба асталёўвацца на месцы высылкі.

Мае адносіны да Дылы былі больш блізкія, дзякуючы таму, што ён пасяліўся ў Саратаве непадалёк ад мяне, па той жа В. Горнай вуліцы. Мы сустракаліся часта. Працуючы ў Інстытуце Кааперацыі, ён змог даць заробак маёй жонцы (пісанне бібліяграфічных картак, для каталога — Бібліяграфія кааперацыі). Пазней працуючы ў Бюро выразак ён збіраў для мяне выразкі па археалогіі і фальклору. У дадатак, як чалавек энцыклапедычна адукаваны і, у мінулым, літаратар ён з'яўляўся цікавым субяседнікам па любому пытанню. Я прыводзіў у парадак свае фальклорныя запісы і Дыла не раз бываў цярплівым слухачом маіх фальклорных пошукаў і гіпотэз. Як Зянюк, так і Дыла трымаліся таго погляду, што вяртання на радзіму для нас няма. Пасля заканчэння ссылкі мы марылі дзе-небудзь разам пасяліцца, перабіралі розныя мясціны. Нам хацелася забрацца куды-небудзь у глухамань. Але, падлічыўшы свае рэсурсы, адмовіліся ад гэтай думкі: у Саратаве у нас ёсць работа, кватэры; нас тут ведаюць, а значыць вырашылі нікуды не выязджаць і заставацца ў Саратаве да канца дзён. Дыла часцей меў магчымасць атрымаць якую-небудзь газету з Беларусі і цікавіўся, што там адбываецца, асабліва ў галіне тэатра і кінематаграфіі, як былы работнік тэатра і кінастудыі. Я часта абрываў яго захапленне «навінамі з радзімы», гаворачы што ўсё гэта перастала мяне ўжо цікавіць.

Мае адносіны з Волк-Левановічам былі ў Мінску варожымі: я лічыў яго русафілам і ён у БАН выступаў з прапановамі ў разрэз процілеглымі ўстаноўкам нацдэмаў (русіфікацыя мовы беларускай). У Саратаве нашы адносіны не палепшыліся: мы недаверліва глядзелі адзін на аднаго пры нашых сустрэчах, у час перадачы ім рукапіснага аддзела ў Аддзел старадаўніх і рэдкіх кніг Фунд. Б-кі пры СДУ.

На саратаўскім гарызонце ў 1935 годзе паявіўся высланы па нацдэмаўскаму працэсу артыст Бел. Дзярж. Тэатра Аляхновіч. Ён быў высланы ў канцлагер і, прапрацаваўшы на Беламорскім канале, атрымаў ад ДПУ дакумент, які здымаў з яго судзімасць і даваў яму права пражываць па ўсім СССР. Быў адзін раз я ў яго і ён быў у мяне два разы. Кожны раз размова кружылася вакол яго работы на канале (працаваў па спецыяльнасці). Працаваў ён у тэатры, які абслугоўваў калгасы.

З высланых нацдэмаў у іншыя месцы. Наведвалі мяне: 1). Трамповіч (высланы ў Астрахань) праездам з Масквы ў Астрахань, дзе ён рабіў даклад аб нейкім сваім вынаходстве. На радзіму ён вяртацца не збіраўся, і не цікавіўся тым, што там адбывалася. Візіт яго да мяне быў не больш як 10 хвілін. 2) Здаецца ў 1936 годзе, прыязджаў у Саратаў да ўрача і зайшоў і да мяне на кватэру [Лёсік]. Ён жыў у Нікалаеўску (па Волзе) і збіраўся выехаць у якую-небудзь лясістую вобласць, бо па лясным пейзажы сумавала ўся яго сям'я. Ён рады быў, што яму назначылі пенсію, для атрымання якой не хапала яму даведкі ад доктара, спецыяліста па хваробах сэрца. І ён разумеў, што на радзіму яму няма вяртання і імкнуўся пасяліцца ў малым гарадку, дзе магчыма таннае жыццё.

Перапіскі я не вёў ні з кім з высланых па працэсу нацдэмаў. Мая жонка зрэдку перапісвалася з жонкай Лёсіка (2—3 пісьмы ў год).

Адзіным маім карэспандэнтам за саратаўскі перыяд быў стары Адам Багдановіч (Яраслаўль), бацька вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча, майго сябра, які памёр ад сухотаў. Багдановіч быў блізкім родзічам Максіма Горкага (жонка Горкага Пешкава і жонка Багдановіча — родныя сёстры). Падтрымліваючы з ім даўнія адносіны, я тайна спадзяваўся на яго апякунства, праз яго сваяцкія сувязі, але думкі гэтай я яму ні разу не выказаў ў сваіх пісьмах.

Вось такі круг знаёмых у самім горадзе Саратаве з беларускімі нацдэмамі і мае сувязі з імі, а таксама тая асоба, з якой я перапісваўся за гэты перыяд.

***В. Ластоўскі.***

*<верасень 1937 г.>*

❑❑❑

*Генеральнаму Сакратару*
*ЦК ВКП(б).*
*Таварышу Сталіну.*

Знаходзячыся ў зняволенні і адчуваючы сябе абсалютна невінаватым ва ўзведзеным на мяне абвінавачанні, звяртаюся да Вашай высокай абароны.

Я сын беззямельнага селяніна шорніка, ураджэнец Зах. Беларусі. Па адукацыі самавучка. З 1902 і па 1916 год знаходзіўся ў партыі Беларуская сацыялістычная Грамада, з 1919 і па 1923 год быў членам партыі Беларускіх сацыялістаў Рэвалюцыянераў (Эсэры). З 1923 года — беспартыйны. З 1902 года, прымкнуўшы да Грамады, змагаўся за сацыяльнае і культурнае вызваленне беларускага народа спачатку як радавы член Грамады, а з 1909-га і па 1917-ы год як кіраўнік беларускага культурнага адраджэння ў якасці сакратара рэдакцыі «Наша Ніва», побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам (цяпер народнымі паэтамі БССР). У 1918 годзе быў членам літоўскага ўстаноўчага сходу (Тарыбы) і аташэ пры Літоўскім пасольстве ў Берліне. У 1919 годзе, стаўшы на чале антыпольскіх груповак, быў выбраны кіраўніком урада БНР і за прапанаваную і прагаласаваную рэзалюцыю аб выдаленні польскай акупацыі на беларускай зямлі, быў арыштаваны і пасаджаны на 2 месяцы адзіночнага зняволення палякамі ў турму. Пасля выхаду з турмы абавязаны быў не выязджаць з Мінска і з'яўляцца 2 разы на тыдзень для рэгістрацыі. Уцёкшы з-пад польскай акупацыі, я з канца 1919 і па 1926-ы год, пад флагам урада БНР, змагаўся разам з Літоўскай дзяржавай за Заходнюю Беларусь. Мае выступленні ў Лізе нацый (1920, 1921 і 1922), на Генуэзскай канферэнцыі, у Рыме (супраць заключанага Польшчай канкардата з Ватыканам), у Парыжы (апеляцыя зняволеных Польшчай народнасцей у Лігу правоў чалавека і грамадзяніна і французскі парламент), былі ўзгоднены з урадам Літвы і мелі на мэце адстаяць захопленую Польшчай чужую ёй тэрыторыю, указаць на зверствы, якія ўчынялі акупанты ў гэтай краіне, не закранаючы пытанняў аб БССР, як тэрыторыі вызначанай згодна з воляй народа (указана ў мемарыяле, паданым на Генуэзскай канферэнцыі Лойд Джорджу і ў мемарыяле, паданым Эрыо(?) у французскім парламенце). У 1923 годзе я выйшаў з саставу БНР і працягваў сваю дзейнасць з Літвы, супраць палякаў у якасці Старшыні Беларускага цэнтра ў Літве. У 1926 годзе адбыўся фашысцкі пераварот ў Літве, арганізаваны Вальдэмарасам. [...] Становішча маё ў фашысцкім рэжыме Літвы стала невыносным. Тады паўпрэд СССР у Літве т. Александроўскі, т. Баркусевіч, сакратар паўпрэдства у Латвіі (? — **М. І.**) і т. Лорэнц прапанавалі прытулак у БССР. Тым больш, што раней, да гэтай падзеі, у бытнасць маю на Акадэмічнай канферэнцыі ў Мінску, асабіста запрашалі мяне на культурную работу паўпрэд СССР у БССР т. Казюра і старшыня ВЦК т. Чарвякоў. У маі 1927 года я пераехаў у Мінск. У хуткім часе назначаны быў дырэктарам Бел. дзярж. Музея і выбраны правадзейным членам і неадменным сакратаром ІБК, а пазней перавыбраны ў правадзейныя члены Бел. Акадэміі Навук, неадменным сакратаром і кіраўніком кафедры этнаграфіі. У 1930 годзе, па агавору, быў арыштаваны. Прызнаўшы свае памылкі і ўхілы, я Калегіяй АДПУ быў асуджаны на 5 гадоў высылкі у Саратаў. Адбыўшы пакаранне, я працаваў у Навуковай Бібліятэцы (с 1931 па 1937) загадчыкам аддзела рукапісаў, старадаўніх і рэдкіх кніг, але 21.VIII.1937 зноў быў арыштаваны па абвінавачанню ў шпіянажы на карысць Польшчы. Паколькі мой арышт і высылка ў 1930 годзе былі, у адносінах да мяне, справядлівымі: я прыехаўшы ў БССР не арыентаваўся ў савецкай рэчаіснасці, якая пайшла наперад, і дапускаў памылкі, якія межавалі са злачынствам, дзякуючы маёй недасведчанасці, нац. дэмакратычнаму мінуламу і апартуністычнаму кіраўніцтву, то я вынес пакаранне цярпліва і ціха, стараючыся стаць у рады карысных савецкіх работнікаў. Гэтае ж абвінавачанне, якое не мае ніякіх падстаў ні ў маім цяперашнім, ні ў мінулым жыцці, прыгнятае і зневажае мяне, і я прашу Вас Таварыш Сталін, як чалавека вынесшага барацьбу за камунізм на эміграцыі, прыслухацца да маёй просьбы: пасля вывучэння ў цэлым маёй дзейнасці, зняць з мяне ганебнае і беспадстаўнае абвінавачанне і прадаставіць мне магчымасць, у маёй старасці, спакойна працаваць для пралетарскай рабоча-сялянскай радзімы, — ці ж у выніку адносін Савецкага ўрада, якія змяніліся адносна мяне, адаслаць мяне назад у Літву, на ўтрыманне маёй малодшай дачкі Станіславы, якая абавязана даць прытулак старому бацьку з надарванымі сіламі і здароўем.

***Ластоўскі Вацлаў Усцінавіч***

*22 верасня 1937 г.*
*зняволены ў 2-й турме*
*гор. Саратава.*

***Ход пісьму В. Ластоўскага на імя І. Сталіна не быў дадзены, аб чым сведчыць дакумент унутранага абыходжання УНКУС Саратаўскай вобласці, падрыхтаваны ў аддзеле месцаў зняволення (АМЗ):***

*Начальніку УНКУС*
*па Саратаўскай вобласці маёру*
*дзяржбяспекі т. Строміну*

Пры гэтым накіроўваецца заява ад падследнага зняволенага Ластоўскага В. У., адрасаваная на імя Генеральнага Сакратара ЦК ВКП(б) т. Сталіна.

зн. Ластоўскі лічыцца за 4-м Аддзелам УНКУС, следчым т. Карнеевым.

Дадатак: па тэксту.

Нач. АМЗ УКНУС па Сар. вобл.
ст. маёр Дзяржбяспекі
(Генкін)

***Усе тры дакументы былі схаваны ў архівы НКУС, дзе і праляжалі амаль шэсць дзесяцігоддзяў.***

***В. Ластоўскі быў расстраляны 23 студзеня 1938 года. Сваякам яго было паведамлена 5 кастрычніка 1943 года, што ён асуджаны ў 1938 годзе на 10 гадоў без права перапіскі і памёр 11 чэрвеня 1939 года ад упадку сардэчнай дзейнасці ў папраўча-працоўным лагеры НКУС СССР.***

**Мікалай ІЛЬКЕВІЧ,**
**супрацоўнік упраўлення Федэральнай службы бяспекі Расіі па Смаленскай вобласці.**

**(Спецыяльна для «Звязды».)**



СССР
НАРОДНЫЙ КОМИССАРИАТ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ
УПРАВЛЕНИЕ НКВД по Саратовской области
Отдел Мест Заключения
гор. Саратова
25 сентября 1937
№ 100251
г. Саратов

НАЧАЛЬНИКУ УНКВД ПО САРАТОВСКОЙ ОБЛАСТИ МАЙОРУ ГОСБЕЗОПАСНОСТИ т. СТРОМИНУ.

При этом направляется заявление от подследственного заключенного ЛАСТОВСКОГО В. адресованное на имя Генерального Секретаря ЦК ВКП/б/ т. СТАЛИНА.

з/к ЛАСТОВСКИЙ числится за 4-м Отделом УНКВД, следователем т. КОРНЕЕВЫМ.

ПРИЛОЖЕНИЕ: по тексту.

НАЧ. ОМЗ УНКВД ПО САР. ОБЛ.
СТ. МАЙОР ГОСБЕЗОПАСНОСТИ- /ГЕНКИН/

*На фота: адзін з публікуемых дакументаў.*

**ЭКСЛІБРЫС «ЗВЯЗДЫ»**

# Дамінанта Аркадзя Тоўсціка і іншых знакамітых глусчан

**Сандомирский Н.**
**ЛЮДИ, ВРЕМЯ, ЖИЗНЬ...**
**Глуск, 1996. — 96 с.**

Калі мне трапляе ў рукі кніга, выдадзеная ў правінцыі, разглядаю яе, гартаю старонкі, чытаю з асаблівай увагай.

Спяшаюся адкрыць для сябе чужую тайну, спяшаюся адказаць на пытанне: «Што прымусіла аўтара (як правіла, не прафесіянала ў літаратуры) пайсці на многія клопаты, каб выкласці ў кнізе свае думкі і меркаванні?» З асаблівай увагай стаўлюся да мясцовых краязнаўчых кніг.

Такое выданне пабачыла свет і ў Глуску. Разам у кнізе Навума Сандамірскага «Люди, время, жизнь...» сабраны нарысы пра землякоў.

Пра тых людзей, якія складаюць славу Глускага краю. Якія ж незвычайныя людзі паходзяць адтуль? Паэт Сяргей Грахоўскі і вучоны Мікалай Пігулеўскі, двойчы Герой Савецкага Саюза Сцяпан Шутаў... Пералік можна доўжыць. Але ж ці ў гэтым справа? Галоўнае ў іншым. У тым, што аўтар кнігі нарысаў пераканаўча, на многіх прыкладах паказвае адметнасць лёсаў сваіх землякоў.

Асобныя старонкі кнігі — пра колішняга рэдактара «Звязды» Аркадзя Апанасавіча Тоўсціка. Запомніліся ў нарысе «Ехаў хлопчык на вазку...» такія вось радкі: «Ацэньваць трэба не гэтулькі па прыватных момантах, колькі па «дамінанце», па нутру і сутнасці.

А яны ў Аркадзя Апанасавіча безумоўна сімпатычныя». Ведаў некаторых глусчан — герояў гэтай кнігі (пісьменніка Аркадзя Марціновіча, кампазітара Валерыя Іванова), ліставаўся ў свой час з Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім, таму гатовы ўслед за аўтарам сцвярджаць: незвычайныя ўсе яны людзі, апантаныя, дзеяздольныя. Вось і Аркадзь Апанасавіч Тоўсцік не сядзіць без справы. Рупіцца, наколькі сіл хапае, у камісіі «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры, дбае аб вяртанні на Радзіму духоўнай спадчыны беларускага народа.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ИНФОРМАЦИОННЫЙ КАТАЛОГ
ОПТОВАЯ ТОРГОВЛЯ
БЕЛАРУСИ



Это профессиональный справочник для руководителей предприятий и фирм, служб маркетинга и сбыта. Реклама в каталоге "Оптовая торговля Беларуси" престижна и делает фирму широко известной не только в Беларуси, но и за ее пределами.

Приглашаем к сотрудничеству рекламные агентства и агентов.




тел. 262 406,262 415



# ЛАТВІЙСКІ ШЛЯХ

## Латвія выбрала заходнееўрапейскую мадэль развіцця і ўпарта крочыць да гэтай мэты

**У першай палове верасня пасольства Латвіі ў Мінску сумесна з Нацыянальным цэнтрам стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» наладзіла паездку групы беларускіх журналістаў у гэту краіну. Праграма візіту была насычана цікавымі сустрэчамі. Журналістаў прыняў прэзідэнт Латвійскай рэспублікі Гунтыс Улманіс. Гутаркі з іншымі вядомымі палітыкамі, членамі ўрада, прадстаўнікамі мясцовых уладаў, дзяржаўных прадпрыемстваў і прыватных фірмаў, звычайнымі людзьмі дазволілі нам адчуць і зразумець сутнасць кардынальных перамен за апошнія пяць гадоў у адной з былых савецкіх сацыялістычных рэспублік.**

КАЛІ ГАВАРЫЦЬ вельмі коратка, то Латвія, навучаная горкім гістарычным вопытам не вельмі далёкага мінулага, адзіным гарантам сваёй бяспекі і незалежнасці, а значыць і важнейшай перадумовай дабрабыту свайго народа, бачыць хутчэйшае далучэнне яе да еўрапейскіх інстытутаў. І ў першую чаргу — уступленне ў Еўрапейскі саюз і НАТО.

Шлях да паўнацэннага членства ў Еўрапейскім саюзе абяцае быць вельмі няпростым, працяглым у часе і ўжо запатрабаваў велізарных інтэлектуальных, эканамічных, палітычных намаганняў дзяржавы. Як і ўсе астатнія асацыіраваныя члены ЕС, Латвія атрымала так званую Белую кнігу — зборнік інструкцый, палажэнняў, дырэктыў, якія датычацца ўсіх сфер жыцця краін— ад прамысловасці, сельскай гаспадаркі да ўмоў свабоднай канкурэнцыі. Іх краіны-кандыдаты павінны ўкараніць у заканадаўстве і ў штодзённым жыцці. Асобныя з гэтых патрабаванняў латышы ўспрымаюць як экстравагантныя выбрыкі багатых суседзяў. Ну, калі яшчэ можна зразумець вельмі высокі стандарт пітной вады (яе якасць у ЕС рэгулююць аж 9 дырэктыў), то навошта інструкцыя па ліфтах, якія павінны абвяшчаць паверхі на англійскай і латышскай мовах? Латышы не без гумару лічаць, што ў краінах ЕС канчаткова зарэгуляваліся, з усмешкай успрымаюць увядзенне стандартаў на велічыню бульбы, яблыкаў, клубніц, іншай садавіны і агародніны.

Смех смехам, але тым не менш Латвія самым сур'ёзным чынам ставіцца да выканання неабходных умоў па ўступленню ў ЕС. А іх больш як 2400. Дакладней, столькі пытанняў, на якія краіна павінна пераканаўча і ясна адказаць строгім экзаменатарам. У іх ролі будуць выступаць высокапастаўленыя члены і супрацоўнікі Еўрапейскай камісіі — своеасаблівага ўрада Еўрапейскага саюза. Менавіта прадстаўнікам камісіі дадзена высокае права вызначыць у 1998 годзе з 10 краін-кандыдатаў 3-4 дзяржавы, якія лепш за іншых падрыхтаваліся да членства ў ЕС. Гэтыя шчасліўчыкі на працягу бліжэйшых двух гадоў могуць быць нарэшце прыняты ў Еўрапейскі саюз. Іншыя атрымаюць пераэкзаменоўкі з адтэрміноўкай уступлення ў Саюз на 5—7 гадоў.

Натуральна, Латвія гарыць жаданнем быць сярод першай партыі папаўнення ЕС. І робіць усё магчымае дзеля дасягнення гэтай мэты. А каб не пусціць гэтую важную справу на самацёк, было створана міністэрства па справах Еўрапейскай супольнасці. З яго кіраўніком Аляксандрам Кірштэйнам мы мелі непрацяглую, але насычаную цікавай і разнастайнай інфармацыяй размову. Сваё ведамства пан Кірштэйн не лічыць міністэрствам у класічным варыянце. Сябе ён называе міністрам па асобых даручэннях, які адказвае за адзіны рынак і ўпарадкаванне заканадаўства. Пад яго кіраўніцтвам невялікі сакратарыят (5 пастаянных супрацоўнікаў і 2 на дагаворы) і еўрапейскае інтэграцыйнае бюро (12 чалавек). У будучым годзе яго колькасць плануюць падвоіць. Бюро выконвае вельмі важную працу — дае заключэнні на кожны праект дакумента ўрада, якое рыхтуюць галіновыя міністэрствы, на адпаведнасць патрабаванням ЕС. І ў палове выпадкаў у гэтых праектах знаходзяць неадпаведнасць еўрапейскім нормам. Напрыклад, схаваны пратэкцыянізм.

Таму даводзіцца вяртаць падобныя неспелыя паперы на дапрацоўку. Работа гэта, калі ўлічыць высокае службовае становішча іх аўтараў, не з прыемных.

Ведамства пана Кірштэйна адметнае яшчэ і тым, што яно на свае арганізацыйныя мерапрыемствы не траціць дзяржаўных грошай. Толькі сёлета і ў наступным годзе, па яго словах, міністэрства на ўдасканаленне заканадаўства, павышэнне менеджменту ў розных структурах, правядзенне розных конкурсаў, праектаў і г. д. мяркуе атрымаць ад Бруселя 100 мільёнаў долараў. 600 тысяч долараў выдаткавана ЕС толькі на распрацоўку праекта рэканструкцыі чыгуначнай сеткі. Выдзелена 70 тысяч долараў на аплату камандзіровак, сінхронных перакладаў, іншых расходаў, якія звязаны з правядзеннем перагавораў з Сусветнай гандлёвай арганізацыяй. Без уступлення ў яе не прымуць у Еўрапейскі саюз.

Пан Кірштэйн скардзіцца нам, што гандлёвая арганізацыя ставіць перад новымі членамі ўсё больш жорсткія ўмовы, асаблівую агрэсіўнасць праяўляюць тут ЗША. Аднак Латвія была вымушана пагадзіцца з патрабаваннямі і сёння гатова пайсці на ліквідацыю ўсіх абмежаванняў у гандлі.

Гэты крок далёка не ва ўсіх у Латвіі выклікае аптымізм. Так, цяжка не пагадзіцца з міністрам у тым, што рынак прыбалтыйскіх краін, дзе жыве ўсяго 8 мільёнаў чалавек, вельмі малы, каб на яго арыентаваць буйное развіццё латвійскай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Іншая справа — амаль бязмежны па пакупной здольнасці рынак багатай Заходняй Еўропы з яе 370 мільёнамі жыхароў.

У Латвіі, дарэчы, ёсць дагавор з ЕС аб бяспошлінным гандлі ўсімі таварамі, за выключэннем тэкстылю і сельгаспрадукцыі. У 2000 годзе, калі лёс будзе спрыяць Латвіі і яе прымуць у ЕС, здымуцца мытныя бар'еры на тэкстыль і сельгаспрадукты. Усе эканамічныя адносіны з іншымі краінамі і ўнутры самой Латвіі будуць рэгуляваць рынак і свабодная канкурэнцыя.

Выпрабаванне апошняй, на мой погляд, стане экзаменам значна больш строгім і жорсткім, чым прыдзіркі да заканадаўства членаў прыёмнай камісіі ў Еўрапейскі саюз. Дзяржава ўжо не будзе мець права пратэкцыяніцкімі мерамі абараняць айчынных вытворцаў. І несумненна, радавыя спажыўцы, як бы ні ціснулі на іх патрыятычныя пачуцці, выберуць, скажам, галандскія малочныя прадукты, калі яны будуць таннейшыя за латвійскія. Не ведаю, як хутка тутэйшыя вытворцы асвояць заходнія рынкі, спачатку, хутчэй, будзе наадварот.

Хаця, дзеля справядлівасці трэба адзначыць асобныя поспехі Латвіі ў гандлі з заходнімі краінамі. Напрыклад, па аб'ёмах паставак лесу і розных піламатэрыялаў у Англію яна нават перагнала Расію і займае трэцюю пазіцыю. Дасягнута гэта ў многім дзякуючы таму, што Латвія цяпер не плаціць ніякіх экспартных пошлін.

У краіне працягваецца працэс вяртання ўласнасці былым гаспадарам часоў буржуазнай Латвіі. Ім перадаюцца жылыя дамы, гасцініцы, зямельныя надзелы, лясныя масівы. Многія з былых, каб паправіць сваё матэрыяльнае становішча, прадаюць вернутую маёмасць.

І вось у розных кутках краіны з'явіліся высечкі лесу. Сотні тысяч кубаметраў якаснай драўніны такім чынам былі адпраўлены на экспарт. Яно ўсё б нічога, калі б адразу праводзілася пасадка новых дрэў. Але ў большасці выпадкаў пустэчы кінуты на волю лёсу, зарастаюць хмызняком. Многіх з латышоў, з якімі мы размаўлялі, трывожыць сітуацыя з лесам. Не менш іх хвалюе і становішча ў сельскай гаспадарцы. У Латвіі даволі хутка разбурылі калгасы, а вось узамен нічога вартага пакуль не стварылі. І невядома, калі з'явіцца тут фермерства накшталт шведскага.

Латвія гатова прынесці ў ахвяру на алтар Еўрапейскага Саюза іншыя заваёвы развітога сацыялізму. Плата за кватэру пазбаўлена дзяржаўных датацый і сёння складае 100—120 долараў, што асабліва моцна ўдарыла па бюджэту пенсіянераў.

У параўнанні з беларускай, так званай кропачнай і надзвычай запаволенай, прыватызацыяй гэты працэс у Латвіі здаецца татальным. Прычым мяняюць форму ўласнасці як стратныя прадпрыемствы, для якіх прыватызацыя, бадай, адзінае выйсце, так і прыбытковыя дзяржаўныя. Да канца года будуць прыватызаваны такія манапалісты ў сваёй сферы, як «Латвійскі газ», «Латэнерга» і іншыя буйныя дзяржаўныя кампаніі.

Адна з характэрных прымет краіны з развітой рыначнай эканомікай — свабодны продаж зямлі як яе жыхарам, так і іншаземцам. Здачу зямлі ў арэнду на працяглы тэрмін, скажам, на 99 гадоў, у Латвіі лічаць не зусім адпаведнай еўрапейскім стандартам. У Еўропе прынята, што зямля і прамысловыя збудаванні на ёй — гэта адно цэлае. Акрамя таго, прыватная ўласнасць на зямлю спрыяе таму, што селянін можа браць грошы ў банку пад яе залог. А калі зямлю нельга прадаць, то банк не дасць крэдыту. Жорстка, але па-рыначнаму справядліва.

Аднак страты і выдаткі на шляху ў Заходнюю Еўропу (часам вельмі адчувальныя) потым, на погляд сённяшняга кіраўніцтва Латвіі, прынясуць плён і краіна зажыве нармальным цывілізаваным жыццём з высокім еўрапейскім узроўнем спажывання і сацыяльнай абароненасці. Разлікі ўладаў краіны зводзяцца да наступнага: калі б Латвія ішла ці вярталася самастойна ў Еўропу, без апоры на ЕС, то на гэта ёй спатрэбілася б 20—30, а па асобных прагнозах аж 40 гадоў.

Ужо сёння Латвія можа браць у Еўрапейскім інвестыцыйным банку грошы ўсяго пад 6 працэнтаў гадавых. Краіна выкарыстоўвае гэту магчымасць. Нядаўна там узята 76 мільёнаў долараў пад рэканструкцыю электрастанцыі на рацэ Даўгава, 100 мільёнаў — на будаўніцтва тэрмінала ў Рыжскім порце, яшчэ 100 мільёнаў долараў — на ажыццяўленне праекта па рэканструкцыі водазаборнай сістэмы Рыгі.

Гэтыя сотні мільёнаў — дробязь, крохі ў параўнанні з тымі велізарнымі сумамі, якія пералічваюцца ад ЕС не самым яго багатым краінам. Паводле інфармацыі міністра пана Кірштэйна летась Партугалія атрымала бясплатных субсідый больш як 3 мільярды долараў, а Грэцыя — амаль 5 мільярдаў. Для параўнання скажам, што бюджэт Латвіі складае 4 мільярды долараў.

Маючы перад вачыма зайздросны прыклад Грэцыі і Партугаліі, Латвія зусім не выпадкова разлічвае за кошт і з дапамогай ЕС на працягу 4 гадоў вырашыць у асноўным праблемы інфраструктуры: масты, дарогі, розныя іншыя інжынерныя збудаванні. А грошы ад падаткаў, акцызаў укладваць у сацыяльныя фонды, праз якія сур'ёзна заняцца пад'ёмам жыццёвага ўзроўню насельніцтва. На гэта ўлады адводзяць 10 гадоў.

Не падумайце, аднак, што ўтрыманскія настроі вельмі моцна развітыя ў Латвіі. Проста, калі ёсць шанцы прыцягнуць дадатковыя рэсурсы, чаму б іх не выкарыстаць. А ў асноўным краіна разлічвае на ўласныя сілы, мабілізуючы ўсе свае рэзервы.

Латвія ў цяжкі для яе пераходны перыяд звязвае вялікія надзеі з транзітам грузаў праз сваю тэрыторыю. У гэтым яе вабіць прыклад таксама невялікай Галандыі, аднаго з буйнейшых у Еўропе экспарцёраў сваёй разнастайнай прадукцыі, у першую чаргу сельскагаспадарчай (у Латвіі і Беларусі не перастаюць здзіўляцца, чаму імпартныя галандскія кветкі могуць быць таннейшыя за айчынныя). Але ў лыташоў выклікае зайздрасць не магутны экспартны патэнцыял галандскіх вытворцаў сельгаспрадуктаў, а велізарныя прыбыткі, якія атрымлівае гэта краіна ад транзіту і рэалізацыі паслуг. Ротэрдам самы вялікі порт у свеце. Штогод праз яго докі перавальваецца 300 мільёнаў тон грузаў, з якіх каля 80 працэнтаў — з Германіі.

Перахапіць іх, зразумела, Латвія ў бліжэйшай перспектыве нават і не марыць. Ёй на сённяшнім этапе дастаткова захаваць, а потым паступова пашыраць паток тавараў з Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана і іншых праз галоўны латвійскі порт Вентспілс. За яго працвітанне, без перабольшання, літаральна моляцца ва ўсіх уладных кабінетах. Летась, калі краіна перажыла вельмі непрыемны банкаўскі крызіс, зніжэнне эканамічнай актыўнасці, Вентспілскі порт на здзіўленне дасягнуў выдатных вынікаў — «пераварыў» амаль 30 мільёнаў тон грузаў.

Рэкордны за ўсю гісторыю існавання порта паказчык натхняе латышоў, усяляе ім веру ва ўласныя сілы, адкрывае неблагія перспектывы на будучыню. Асабліва ім гэта прыемна адчуваць на фоне неспрыяльнага прагнозу прызнаных спецыялістаў, здаецца, з Галандыі ці Швецыі, якія прадказвалі істотнае і няўхільнае падзенне грузаабароту праз Вентспілскі порт. На радасць латышоў, усё выйшла з дакладнасцю да наадварот.

Поспеху ў многім пасадзейнічала мінулая суровая зіма. Вентспілскі порт, у адрозненне ад іншых балтыйскіх портаў, не замярзае нават у самыя вялікія маразы. Гэта акалічнасць стала немалаважнай перавагай перад бліжэйшымі канкурэнтамі: портамі Рыгі, Санкт-Пецярбурга, Фінляндыі. Агульнавядома, у замярзаючых гаванях зімой узрастаюць расходы кліентаў на паслугі ледаколаў, спажыванне дадатковай энергіі і г. д. У Вентспілсе маразы не ўплываюць на павышэнне тарыфаў. Такім чынам, зіма зрабіла выдатную рэкламу порту ў вельмі патрэбны для краіны момант, калі развіццё і стымуляванне транзіту было аб'яўлена адным з асноўных эканамічных прыярытэтаў, ажыццяўленне якога павінна таксама садзейнічаць і палітычнай стабілізацыі ў грамадстве.

«Вентспілс — транзітная сталіца Балтыйскіх дзяржаў. Вентспілскі порт — гэта месца, дзе спалучаецца Усход і Захад, сустракаюцца патокі транзітных грузаў». Цытата належыць Айварсу Лембергсу, старшыні праўлення Вентспілскага порта і адначасова Вентспілскай гарадской думы.

А сустрэча з міністрам транспарту Вілісам Крыштапанам яшчэ раз пераканала ў намерах урада зрабіць порт своеасаблівым лакаматывам латвійскай эканомікі. У яго рэканструкцыю і мадэрнізацыю, па словах міністра, на працягу некалькіх гадоў плануецца ўкласці, паводле папярэдніх падлікаў, 400 мільёнаў долараў. Сума велізарная для маленькай Латвіі, якая мае вельмі абмежаваныя валютныя рэсурсы. Таму тут разлічваюць на актыўны ўдзел замежных інвестараў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

**(Заканчэнне будзе).**

# АБ «САМАСЦІЙНЫХ» ПЕНСІЯХ, КАЎБАСЕ І САЛЕ

У АПОШНІ ЧАС на прасторах СНД ажывіўся аб'яднальны працэс. Уволю наеўшыся суверэннай кашы, былыя савецкія рэспублікі пацягнуліся да агульнага катла. Казахстан і Кіргізія адмянілі ўсялякія мытні паміж сабой і падпісалі кучу двухбаковых пагадненняў са «старэйшым братам». Беларусь і Расія стварылі свой двухбаковы саюз. У гэтым зразумелым працэсе ўсеагульнага збліжэння не ўдзельнічае, мабыць, адна толькі Украіна. Яна ўсяляк стараецца ўмацаваць сваю незалежнасць, аб чым сведчыць і ўвядзенне з 2 верасня ўласнай валюты — грыўні. Як жа жывецца там простаму чалавеку-працаўніку? На першы погляд, не так ужо і дрэнна. Цэны на харчаванне і шырспажыў мясцовай вытворчасці ў 1,2—1,8 раза ніжэй за беларускія. Кілаграм славутай варанай каўбасы каштуе ў пераліку на «зайчыкі» 21—26 тысяч, буханка хлеба — 2600—3300 рублёў. Прыблізна столькі ж літр малака.

Цэны на Украіне ўстанаўліваюцца па-даўнейшаму, зверху. Таму іх паступовага павышэння на 5—10 працэнтаў няма. Пэўны перыяд яны стабільныя. Затое раз-два ў год рэзка (на 100—200 працэнтаў) скачуць уверх. Вось тады народ на ўсю катушку адчувае ўсё «хараство» такога эканамічнага цуда, як шок без тэрапіі. Адпавядаюць магазінным і рыначныя цэны. Мяса ідзе па 20—30 тыс. беларускіх рублёў, бульба — па 2000—3000 рублёў. Намнога танней агародніна і садавіна. Славутае ўкраінскае сала, якое ў Мінску спрытныя хлопцы «штурхаюць» па 40—45 тыс. рублёў, нават на самым дарагім кіеўскім рынку — Бесарабскім — каштуе ў 2—2,5 раза танней.

Як бачым, жыхар рэспублікі, трапіўшы да суседзяў з сярэднебеларускай зарплатай у 950.000—1.050.000 рублёў, будзе адчуваць сябе вольна. Ажыццявіўшы двайны абмен (спачатку «зайчыкі» на долары ці рублі, пасля на грыўні), атрымліваюць каля 90 грыўняў.

Бяда ў іншым — іх у нас мала хто мае. Паводле даных «Кіеўскіх ведамасцей», у жніўні зарплату ў памеры кошту спажывецкай карзінкі (7.800.000 крб., ці 78 грыўняў) і больш зарабілі 23,2 працэнта ўсіх працуючых. Дабавіўшы ўсялякія «левые» прыработкі і сацыяльныя выплаты, атрымаем каля 34—35 працэнтаў. Астатнія жывуць як Бог дасць.

Зарплаты на Украіне таксама рэгулюе ўрад. Нядаўна ён зрабіў падарунак сялянам, падкінуўшы ім крыху грошай. Цяпер даярка пры добрых надоях малака ці механізатар могуць зарабіць 40—50 грыўняў. Убачаць яны іх, аднак, не скора. У большасці калектыўных сельгаспрадпрыемстваў (былых калгасаў) зарплату выдаюць двойчы: пасля Новага года і на Сёмуху.

Не лепшае становішча і ў прамысловасці. Цяпер усе свае патрабаванні шахцёры Данбаса, харкаўскія станкабудаўнікі, запарожскія металургі, якія бастуюць, пачынаюць са слоў аб неадкладным пагашэнні запазычанасці па зарплаце. А ўжо потым вядуць гаворку аб яе павышэнні, павелічэнні сацыяльных выплат, адстаўцы прэзідэнта і інш.

Адзіны слой грамадзян, які мае больш-менш стабільнае становішча, — пенсіянеры. У іх затрымкі ў норме — месяц-два. Адно кепска — мала даюць. Сярэдняя пенсія ў рэспубліцы — 25—35 грыўняў. У інвалідаў і ўдзельнікаў вайны — у 2-3 разы больш. Але і гэтага не хапае. Многія ветэраны, выяўляючы былую кемлівасць, ідуць на маленькія хітрыкі. Едуць у Расію, шукаюць сяброў, знаёмых, прапісваюцца ў іх і атрымліваюць.сапраўдную «рускую» ваенную пенсію. Трацяць яе лічаць за лепшае дома, папярэдне абмяняўшы на рынку на грыўні. Некаторыя дзеля выгады нават фіктыўна скасоўваюць шлюб са сваімі жонкамі і жэняцца на суседках. Таксама фіктыўна, мабыць.

...Вельмі цяжкі эканамічны крызіс, які ахапіў усе сферы эканомікі, парадзіў масавае беспрацоўе. Людзі вымушаны шукаць любыя заробкі. Адны кінуліся ў натуральную гаспадарку. Паводле даных статыстыкі, больш як 83 працэнты гарадскіх сем'яў маюць дачныя ці садовыя ўчасткі, здольныя пракарміць іх. Іншыя заняліся вялікім і малым бізнесам. Тысячы жыхароў Украіны скупліваюць танныя прадукты харчавання і вязуць іх на продаж у Расію, Беларусь. Тут збываюць па хадавых цэнах. У выніку задаволены абодва бакі — і прадаўцы, і пакупнікі. Як бы нас ні раз'ядноўвалі, а сутнасць наша адна і мэта адзіная — выжыць.

**Іван ТУЛІНСКІ.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# «ЯК МАСТАК Я ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСІ...»

***Сярод работ, вылучаных на атрыманне высокай дзяржаўнай узнагароды — «Габелен стагоддзя» Аляксандра Кішчанкі. Пра гэтую сапраўды унікальную працу з яе аўтарам гутарыць мастацтвазнаўца Барыс КРЭПАК.***

**— Саша, твой «Габелен стагоддзя», несумненна, стаўся найбольш адметнай з'явай у мастацкім жыцці мінулага года. Пра яго шмат гаварылі, ён двойчы прэзентаваўся ў выставачным павільёне «Мінскэкспа». Разумею, гэта — вынік тваіх шматгадовых няпростых пошукаў, роздумаў, сумненняў. Ты ішоў да яго, мабыць, усё жыццё. І ўсё ж такі ці быў нейкі непасрэдны штуршок?**

— Быў. У 1990-м годзе я прысутнічаў у Нью-Йорку на прэзентацыі майго габелена «Чарнобыль», які быў вытканы для залы Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН. Памятаю, як тагачасны генеральны сакратар ААН Перэс дэ Куэльяр, калі ўбачыў маю работу, бясконца паўтараў: «Герніка» Пікасо... «Герніка» Пікасо...» Гэта быў сапраўдны трыумф маёй рэспублікі. Менавіта тады я зразумеў: як мастак і як грамадзянін я патрэбны Беларусі.

Па просьбе памочніка дзяржсакратара ЗША мне давялося выступіць на прэзентацыі. У прысутнасці многіх палітыкаў краін свету і прадстаўнікоў беларускай дыяспары я заўважыў: «Эсхіл казаў, што мастацтва — гэта вочы нацыі. Я прывёз вам вочы маёй Беларусі і талент беларускіх ткачых. Чарнобыль — не толькі сённяшняя трагедыя. У розных, але аднолькава трагічных формах яна была і да нас — у той жа Хірасіме. Грэшны чалавек у сваёй амбіцыйнай ганарлівасці, у сваім індывідуалізме можа знішчыць не толькі сваё мінулае, але і будучае». І няхай кожны, гаварыў я, прачытае мой «Чарнобыль» так, як падказвае яму ягонае сумленне, ягонае сэрца. Менавіта там, у комплексе ААН, упершыню і нарадзілася ідэя «Габелена веку». Я хацеў, каб Беларусь сродкамі манументальнага мастацтва заявіла аб сабе свету як вялікая і самабытная дзяржава.

**— А чаму менавіта габелен?**

— Упэўнены, што габелен як від творчасці для Беларусі вельмі арганічны і натуральны, бо мае глыбокія нацыянальныя карані, асабліва — у арнаменце, які браў свае вытокі ў XIV—XVI стагоддзях. Мала хто па-сапраўднаму ведае, што такое беларускі геаметрычны або раслінна-геаметрычны арнамент. Па сваёй прыгажосці, вытанчанасці колераў, калі хочаш — пластычнай філасофіі, ён займае ў свеце вельмі высокае месца.

**— Такім чынам, «Габелен стагоддзя»... Такога вялізнага габелена да цябе ў свеце ніхто не рабіў.**

— Мяркуй сам: памер яго — 19 метраў у вышыню і 14 у шырыню, гэта значыць — 260 метраў палатна з фарбаванай авечай воўны. Агульная даўжыня ніці габелена — больш за 800 кіламетраў. Больш за год яго выраблялі спачатку 9, а потым 14 высокапрафесіянальных ткачых, якім для для работы спатрэбілася амаль 270 кілаграмаў воўны.

**— Твой габелен, ведаю, ужо зарэгістраваны ў Кнізе рэкордаў Гінеса... Пра што ж апавядае гэты твор?**

— Пра XX стагоддзе. Пра стагоддзе прагрэсу, вялізных узрушэнняў і сацыяльных драм, стагоддзе прарыву ў Сусвет і вялікіх адкрыццяў, стагоддзе пошукаў і ісціны.

**— Я прылічыў бы тваю кампазіцыю да жанру філасофскага эпасу. Гэта не столькі адлюстраванне канкрэтных падзей, колькі роздум пра адвечнае, асэнсаванне яго ў маштабе ўсёй сусветнай гісторыі, пачынаючы з гісторыі Адама і Евы ў тваёй сучаснай інтэрпрэтацыі і заканчваючы развалам СССР.**

— Менавіта так. Ад такога філасофска-эпічнага падыходу ідзе ў мяне і своеасаблівае напластаванне часоў і сюжэтаў у драматургіі габелена, дзе спалучаюцца вобразныя сімвалы, алегорыі і метафары, зітаваныя агульнай ідэяй. У Храме Розуму галактыкі, створанага ў выглядзе каркаса старажытнага хрысціянскага сабора, жыве сярод іншых светаў і наша планета. І ў душы гэтай бесцялеснай зменлівай планеты, створанай Богам, нібы генерыруюцца чалавечыя справы і ідэі, канцэпцыі і пастулаты, сацыяльныя рэвалюцыі і міжканфесіянальныя канфлікты.

**— Якія ж сюжэты габелена?**

— Іх мноства. Космас і нараджэнне планет. Евангелічныя сюжэты. Тут і Ноеў каўчэг, і Ікар, які падае з космасу. І прарок у чырвонай калясніцы вечнасці лётае па арбіце планеты. З-пад колаў разлятаюцца рэшткі нашай занядбанай культурнай спадчыны, нашай гісторыі. І постаць Часу ў выглядзе рыцарападобнай істоты, якая скідвае са сваіх шаляў душы грэшнікаў... Адна з цэнтральных сцэн — тайная вячэра, дзе, па маім разуменні, кожны апостал шукае сваю ісціну. У мяне адлюстравана не апошняя ноч Хрыста перад смерцю, а пошук той самай ісціны, якую чалавецтва так і не здолела знайсці за тысячы гадоў... Вечная барацьба дабра і зла сімвалізуе наступны сюжэт: пасланец д'ябла Антыхрыст, прыгожы і малады, наносіць удар мячом па ўзнятай руцэ Хрыста. Але, нягледзячы на пагрозлівы надпіс на мячы «Vis Vincit» («Перамагае мацнейшы»), меч надломліваецца аб далонь Сына Божага, Бога-чалавека: вера мацнейшая за сілу».

**— У тваім габелене больш за 80 канкрэтных вобразаў вядомых палітыкаў, дзяржаўных і рэлігійных дзеячаў, пісьменнікаў, філосафаў, навукоўцаў, музыкантаў, мастакоў, рэжысёраў XX стагоддзя. Штосьці неверагоднае для аднаго твора!**

— Над гэтым пантэонам асоб, што зрабілі ўплыў на развіццё сусветнай цывілізацыі нашага стагоддзя, мне давялося цяжка папрацаваць. У выніку на габелене прадстаўлены не толькі канкрэтныя партрэты, але ў асноўным завершаныя самастойныя кампазіцыі-карціны. Скажам, Біла Клінтана як сімвал сённяшніх ЗША я адлюстраваў адвольна: ён аголены, з крыламі, бяжыць на фоне амерыканскай архітэктуры. Шарль дэ Голь вядзе за руку Шырыяну — маладую Францыю і Гельмут Коль, які абапіраецца на Кёльнскі сабор, у рыцарскіх даспехах, з двума мячамі, абвітымі ружамі, сімвалізуе аб'яднанне дзвюх Германій. Ёсць сюжэт з выездам у карэце каралевы Англіі Лізаветы II. Альберта Эйнштэйна я адлюстраваў з ягонай заўсёднай скрыпкай, папу рымскага Яна Паўла — у бела-залатым адзенні з узнятым крыжам.

Знайшлі ўвасабленне ў розных іпастасях выявы многіх іншых палітыкаў, мастакоў, літаратараў. Можа, хтосьці і не пагодзіцца з выбарам персаналіяў, але ўсе яны ў маім уяўленні — люстэрка XX стагоддзя.

**— А хто з беларусаў увайшоў у твой Пантэон?**

— Янка Купала, заснавальнікі Беларускай сацыялістычнай грамады, якія стаялі ля вытокаў БНР, браты Антон ды Іван Луцкевічы, а таксама Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Як першы прэзідэнт нашае дзяржавы, ён назаўсёды застанецца ў беларускай гісторыі.

***Праблем у жыцці і неспакойнай творчасці народнага мастака Аляксандра Кішчанкі — процьма. Ці знойдзе сваё сталае месца «Габелен стагоддзя»? Ці будзе калі-небудзь створана ў рэспубліцы габеленавая народная майстэрня, дзе мог бы выкарыстаць свой незвычайны талент і вопыт мастак? І ўвогуле, ці спатрэбіцца дзяржаве інтэлект нацыі?***



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## ДЫСК СКРЫГАТАЦЬ НЕ БУДЗЕ




У аўтамабілях «ВАЗ-2108» (2109) пры яздзе па неасфальтаваных дарогах у тармазны шчыт пярэдняга кола нярэдка трапляюць каменьчыкі і выклікаюць скрыгатанне пры вярчэнні тармазнога дыска.

Каб яны не затрымліваліся ў шчыце, трэба выразаць знізу акно, як гэта паказана на малюнку. Скрыгатання пасля гэтага вы не пачуеце.

## ДЭФЛЕКТАР У «ЗАПАРОЖЦЫ»

Для больш інтэнсіўнага ахаладжэння рухавіка «Запарожца» ЗАЗ-968М у спякотнае надвор'е пастаўце на верхні багажнік дэфлектар, як паказана на малюнку. Гэта металічны ліст шырынёй каля 400 мм, які накіроўвае сустрэчны паток паветра на рашотку паветразаборніка.



На малюнку паказана ўстаноўка дэфлектара на верхнім багажніку «Запарожца».

## ЗРУЧНАЯ КАНТРОЎКА

Шаравыя пальцы ў цягах рулявога кіравання аўтамабіляў звычайна падціскаюцца спружынай з заглушкай, якая стопарыцца спружынным кольцам, якое ўваходзіць у праточку на корпусе.

Калі гэта кольца страціла пругкасць ці згубілася пры рамонце, а знайсці новае нельга, можна надзейна зафіксаваць заглушку адным са спосабаў, паказаных на малюнку.

а — пры дапамозе цвіка ці дроту;

б — пры дапамозе шплінтоў.




## БЕЗ МАСЛА НЕ ПАЕДЗЕШ

Каб аднавіць падачу масла да размеркавальнага вала ў «Запарожцы» ЗАЗ-968 трэба паставіць шайбы, зробленыя са старых штангаў, калі яны ў вас ёсць. А калі падача масла парушаецца з-за несупадзення канавак рэгуліровачнага вінта і карамысла, узнікшага ў выпадку зносу дэталяў, можна зрабіць так. Выкруціць рэгуліровачны вінт, заціснуць яго ў ціскі праз алюмініевую пракладку і надфілем пашырыць кальцавую канаўку на 2 мм у бок шліцавай часткі, як паказана на малюнку чорнай лініяй. Праход масла будзе забяспечаны.




## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 26 верасня

### Беларускае тэлебачанне

**9.30--10.20** Тэлевізійны АРТ-клуб. «Летні антракт». **15.00** Навіны. **15.10** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.55** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 11-ы клас. Культура Беларусі (канец XVIII — першая палова XIX ст.). **16.25** Канцэртны сезон. Фіеста гітарыстаў. **16.55** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў. **17.25** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.55** Музычны антракт. **18.05** Майстэрня. Мастак Валерый Славук. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Вертыкаль. Рэформы і ўлада. Інтэрв'ю старшыні Мінскага аблвыканкома П. П. Пётуха. **19.35** «Дзяжурная аптэка». **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.35** Музычны антракт. **22.10** Вія Артмане ў маст. фільме «Тэатр». 1-я серыя. **23.15** «Оскар». Тэлегульня. «Крок». Да Міжнароднага дня турызму. **0.15** Навіны.

### ГРТ

**11.55** «Ціхі Дон». 2-я серыя. **13.45** «Два сквапныя медзведзяняці». Мультфільм. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Горад сабак». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.05** Гадзіна пік. **18.30** Іграй, гармонік любы! **19.00** Сам-насам. Вядучы — А. Любімаў. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Пол Ньюмен у камедыі «Шчаўчок». **22.55** Кубак свету «Майстар-раллі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар. **23.10** Навіны. **23.20** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.

### Расія

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **10.20—11.30** «Чорны прынц Аджуба». Маст. фільм. 1-я серыя. **16.20** Блакнот. **16.30** «Чэленджэрс». Серыял. **17.00** Залежыць ад цябе. **17.15** «Вялікія непрыемнасці». Мультфільм. **17.25** Экспавеснік. **17.35** Царская ложа. **18.00** Новае пятае кола. **18.40** «Цёмная» для С. Грыгар'янца. **19.00** «Санта-Барбара». **20.30** Рэк-тайм. **20.45** Лато-«Мільён». **21.00** Надвор'е. **21.05** Фантастычны свет. «Дакрананне». Маст. фільм. **22.45** Музыка на дэсерт. **23.30** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.45** «Хто на што здатны». Конкурсная праграма. **23.55—0.20** Не спі і глядзі.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55, 23.35** Інфарм ТБ. **13.30** Парады садаводам. **13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **14.10** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял (ЗША). **15.00** «Фільм пра Фіму». Я. Шыфрын. **15.35** «Музычныя серады ў М. А. Рымскага-Корсакава». **16.10** Парадоксы гісторыі. «Нататкі жанчыны ў чорным». **16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў. **17.05** «Заапаркі свету», «Муха-Цакатуха». **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Асабістая справа. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. (ЗША). **22.15** Закулісе. «Папялушцы» — 50... і заўсёды 16". **22.55—23.40** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.

### НТБ

**6.00, 9.00, 13.00** Сёння. **12.15** «Востраў Эліс: чысцілішча для эмігрантаў» (ЗША). 1-я серыя. Расійскія універсітэты **14.35** Альфрэд Шнітке. «Паміж мінулым і будучым». Частка 2-я. **15.25** Ю. М. Лотман. Гутаркі аб рускай культуры. Перадача 6-я. **16.00** Музычныя навіны. **16.10** «Брадвей» нашага юнацтва». Дак. фільм А. Габрыловіча. **16.40** Навіны. НТБ **17.00** Мультсерыял «Горац» (Францыя). **17.30** Жаночыя гісторыі. «Яе першы мужчына» (Італія). 5-я серыя. **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Герой дня. **19.00** Рутгер Хауэр у фільме «Узяць жывым або мёртвым». **21.35** «Востраў Эліс: чысцілішча для эмігрантаў» (ЗША). 2-я серыя. **22.30** Часінка. **23.20** Сусветная шахматная Алімпіяда. **23.25** Маст. фільм «Дзякуй за кожную новую раніцу» (Чэхія).

Пейджинговую связь
редакции обеспечивает
компания
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
тел. 78-08-98

МОТОВЕЛО

**На велосипедах ММВЗ — за здоровьем и долголетием**

*Минский мотовелозавод и фирменный магазин «Мотовело» предлагают оптом и в розницу:*

- **велосипеды дорожные, складные, детские, спортивно-игровые, горные (всего 18 моделей);**
- **мотоциклы и мототележки;**
- **мотовелосипеды «Кроха»;**
- **санки, велотренажеры и инвалидные коляски;**
- **мото- и велозапчасти.**

***Самые низкие цены и гарантия качества!***

**Справки по телефонам: 21-68-00, 21-67-23, 21-67-14, 21-67-00; тел./факс 21-68-06.**

**Магазин «Мотовело» — тел. 21-77-52.**

***НАШ АДРЕС: 220765, г. Минск, проспект Партизанский, 8.***

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

**Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.**

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 91852. Індэкс 63850.**
**Зак. № 6318.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**